● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

27 чэрвеня 1998 г. субота, № 131 (23482)

# ЗВЯЗДА



СТЫХІЯ

## Сёлетні год як ніколі багаты на паводкі

На большасці рэк Беларусі працягваецца пад'ём узроўню вады з інтэнсіўнасцю 1—13 сантыметраў за суткі. Аднак, па словах спецыялістаў аддзела гідралогіі і гідрапрагнозу Дзяржкамгідрамета, у бліжэйшыя дні, калі, вядома, не зменіцца надвор'е, пад'ём скончыцца, і пачнецца спад вады.

Так, зараз пад'ём узроўню вады на Убарці і Пцічы складае 2—6 сантыметраў за суткі, але ўжо ў бліжэйшыя дні гэтыя паказчыкі зменшацца да аднаго сантыметра. Бярэзіна ў Барысаве захоўвае зараз узровень выхаду на пойму, аднак гідролагі пакуль не абяцаюць тут вялікіх пад'ёмаў, і, напэўна, рака так і не выйдзе з берагоў. На Гарыні за суткі ўзровень вады павялічваецца на 13 сантыметраў, аднак да выхаду на пойму засталося яшчэ 44 сантыметры. На гэтую раку ўплываюць прытокі, што працякаюць па тэрыторыі Украіны, зараз на іх пачаўся спад. Па прагнозах, вада будзе прыбываць у Гарыні яшчэ 2-3 дні, а потым таксама пачнецца яе спад. Хаця такія сітуацыі на рэках краіны здараюцца часта, сёлетні год, па словах спецыялістаў, выходзіць за рамкі звычайнага. За паўгода гідролагамі было складзена 106 бюлетэняў аб стане ўзроўню вады ў рэках — столькі, колькі іх бывае звычайна за ўвесь год. Спецыялісты сёлета нярэдка працуюць нават па выхадных.

У бліжэйшыя некалькі дзён сіноптыкі дажджоў не абяцаюць, аднак потым не выключана, што ў некаторых раёнах яны зноў могуць прайсці.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Урачы дыягназ галіне паставілі. Будуць лячыць?

**Учора ў Мінску закончыў сваю работу Першы з'езд урачоў Рэспублікі Беларусь. На другі дзень з'езда дэлегаты працавалі па секцыях. Вынікам працы стаў праект рэзалюцыі, які, за выключэннем некаторых змяненняў, быў прыняты дэлегатамі.**

Урачы рэспублікі адзначылі, што ва ўмовах эканамічнай нестабільнасці 90-х гадоў удалося не толькі захаваць канстытуцыйнае права грамадзян на атрыманне даступнай і бясплатнай медыцынскай дапамогі, але нават палепшыць і стабілізаваць асобныя паказчыкі здароўя народа, удасканаліць матэрыяльна-тэхнічную базу лячэбных установаў.

Нягледзячы на гэта ў краіне працягвае скарачацца сярэдняя працягласць жыцця, расце смяротнасць людзей у працаздольным узросце, застаецца высокім узровень інваліднасці. Пагаршаюцца ўмовы жыцця людзей, матэрыяльная забяспечанасць, харчаванне. 600 тысяч беларусаў працуюць у шкодных умовах працы. Штогод шпіталізуецца кожны чацвёрты жыхар рэспублікі.

У такіх умовах з'езд палічыў мэтазгодным захаваць даступную і бясплатную медыцынскую дапамогу, распрацаваць сістэму новых гарантый, палепшыць якасць аказваемай дапамогі, разгарнуць дзейнасць па абароне насельніцтва ад сацыяльных хвароб, пачаць увод некаторых платных паслуг, сацыяльна абараніць медработнікаў... Неабходна прасіць Нацыянальны сход, Савет Рэспублікі павялічыць аб'ём фінансавання галіны да 7,5 працэнта ад ВУП, лічаць прадстаўнікі аховы здароўя. Плануюць медыкі перагледзець і парадак ільготнага забеспячэння медыкаментамі, разам з дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй, камітэтам па друку прапагандаваць здаровы лад жыцця, удасканальваць заканадаўчую базу галіны, сістэму спецыяльнай адукацыі, стварыць вертыкальную сістэму кіравання аховай здароўя. Прыняў Першы з'езд урачоў Рэспублікі Беларусь і Кодэкс урачэбнай этыкі, які даўно абмяркоўваецца медыцынскай грамадскасцю краіны.

Дэлегаты далі высокую ацэнку рабоце з'езда і палічылі мэтазгодным праводзіць з'езды ўрачоў не радзей чым раз у пяць гадоў.

**Сяргей ПРОТАС.**

## У Брэсце знойдзена выкрадзеная зброя

**Мы ўжо паведамлялі аб здарэнні ў адной з воінскіх часцей Брэста, дзе ў маі са склада ўзбраення невядомым былі выкрадзены чатыры аўтаматы Калашнікава. Тады неўстаноўленай асобай быў прароблены лаз у даху склада, праз які ён і выцягнуў зброю. І вось новае паведамленне.**

Караулам гэтай жа часці затрыманы рабочы аднаго з прадпрыемстваў горада над Бугам, які спрабаваў пранікнуць на той жа склад. Падазраваемы да высвятлення абставінаў быў змешчаны пад варту, а крыху пазней у лясным масіве следчыя, трэба меркаваць, не без дапамогі рабочага, знайшлі тайнік. Уся зброя, якая была выкрадзена са склада, знаходзілася там.

А вось у Мінску ў дзяжурную часць міліцыі добраахвотна з'явіўся пенсіянер, жыхар Мінскага раёна, які прынёс з сабой небяспечныя «цацкі» — 27 трылых шашак агульнай вагой 7,2 кілаграма.

Па словах пенсіянера, выбухованебяспечныя прадметы ён знайшоў яшчэ ў 1996 годзе на тэрыторыі ваеннага гарадка. І вось толькі зараз адважыўся пазбавіцца ад знаходкі.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Першыя крокі бізнесмена



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## Каўбаса ў «лідэрах»?

**Паводле інфармацыі сацыяльна-эканамічнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў, на 20 чэрвеня кошт набору з 25 асноўных прадуктаў харчавання па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту ў сярэднім па Беларусі ацэньваўся ў 1 млн. 547,8 тыс. рублёў. Найбольш таннай «харчовая карзінка» была ў Магілёве (1 млн. 402,2 тыс.), самай дарагой — у сталіцы (1 млн. 755,5 тыс. рублёў).**

На жаль, даныя прафсаюзаў сведчаць, што ў параўнанні з канцом мая кошт набору асноўных прадуктаў харчавання павялічыўся, прычым даволі істотна — больш чым на 100 тысяч рублёў. Сярэднерэспубліканскія цэны крыху знізіліся хіба што на цукар, ялавічыну і тварог, а засталіся прыкладна на тым жа ўзроўні на хлеб, муку, бульбу, яйкі, малако.

**Сяргей ГРЫБ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 26 ЧЭРВЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 50000 | 51000 | 27700 | 28300 | 8000 | 8200 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 50000 | 54000 | 27850 | 30000 | 8000 | 8650 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 50000 | 55000 | 27800 | 30500 | 8000 | 8800 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 37400.00 | | 20818.26 | | 6000.00 | | Курс на 27.06.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1960 | | 3.4480 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 66666 | 67400 | 37119 | 37532 | 10704 | 10826 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 61500 | 62000 | 34200 | 34700 | 9500 | 10000 | |

### ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**29 чэрвеня 1998 года ў 16.00 у зале пасяджэнняў Савета Рэспублікі прадоўжыць работу чацвёртая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. 30 чэрвеня 1998 года ў 10.00 адбудзецца заключнае пасяджэнне чацвёртай сесіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

Больш чым дваццаць законапраектаў мяркуецца разгледзець на пленарных пасяджэннях, якія завершаць чацвёртую сесію Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу і адбудуцца 29 і 30 чэрвеня. У пераліку праекты новых законаў Рэспублікі Беларусь — «Аб энергазберажэнні», прызначанага садзейнічаць рэгуляванню адносінаў, што ўзнікаюць у працэсе гаспадарчай дзейнасці ў сферы энергазберажэння ў мэтах павышэння эфектыўнасці выкарыстання паліўна-энергетычных рэсурсаў, «Аб геадэзічнай і картаграфічнай дзейнасці», які вызначыць умовы задавалнення патрэбнасцяў дзяржавы, юрыдычных і фізічных асоб у галіне геадэзіі і картаграфіі, Воднага кодэкса Рэспублікі Беларусь, накіраванага на стварэнне ўмоў для рацыянальнага выкарыстання і аховы вод, аднаўлення водных аб'ектаў, захавання і паляпшэння водных экалагічных сістэм.

УСМІХНЕМСЯ!




***Затое праезд бясплатны!*** **Фота Юрыя ЗАХАРАВА.**

— *Чым адрозніваюцца арэхі ад мужа?*
— *Арэхі грызуць, калі ёсць грошы, а мужа — калі іх няма.*

*Сустрэліся дзве сяброўкі.*
— *Я чула, ты пазіравала вядомаму мастаку.*
— *Так, карціна называецца «Ева і змяя».*
— *А з каго ж ён маляваў Еву?*




**Малюнкі Леаніда РАЗЛАДАВА.**

*XVI чэмпіянат свету па футболу*

## Нас чакае германа-югаслаўскае рандэву

**Учора позна ўвечары ў матчы ў Лансе, дзе сустракаліся зборныя Англіі і Калумбіі, вызначылася апошняя, 16-я каманда, якая прайшла ў 1/8 фіналу сусветнага першынства з групы «G». Першае месца, незалежна ад гульні з Тунісам, упэўнена заваявала зборная Румыніі.**

У дывізіёне «Н» дзве пары каманд рашылі зусім палярныя задачы. Каманды Японіі і Ямайкі ў Ліёне спрачаліся толькі за ўласную рэпутацыю, паколькі з далейшай барацьбы за Кубак свету выбылі датэрмінова (Ямайка выйграла — 2:1), а зборныя Аргенціны і Харватыі — за тое, хто ўсё ж такі акажацца вышэй. Землякі Марадоны перамаглі — 1:0.

Напярэдадні вызначыліся яшчэ дзве пары каманд, якія згуляюць паміж сабой у наступным этапе. 29 чэрвеня ў Манпелье і Тулузе сустрэнуцца зборныя Германія—Мексіка, Галандыя—Югаславія. Дарэчы, аб мексіканцах у Францыі ходзяць размовы як аб камандзе-загадцы: тры раз запар лацінаамерыканцы, прайграючы па ходу сустрэчы, знаходзяць сілы адыграцца. Адквітаць за некалькі хвілін два мячы галандцам — гэта раўназначна перамозе. Упершыню ў гісторыі зборная Мексікі прабіваецца праз групавы турнір на сусветным першынстве, які праводзіцца ў Старым Свеце.

Цяпер мексіканцаў чакае нялёгкае выпрабаванне — зборная Германіі. Ва ўжо далёкім 1986-м зборная Мексікі ў сябе дома дастойна змагалася з немцамі ў 1/4 фіналу.

Нягледзячы на першае месца ў групе «Е», расчараванне пануе ў стане галандскай зборнай. «Мы маглі б выйграць з лікам 4:0 і нават 5:0, але ўпусцілі шанцы», — сказаў пасля сустрэчы капітан каманды Франк дэ Бур. «Гэта быў для нас урок і папярэджанне», — заначыў Ван дэ Сар. А знакаміты ў мінулым футбаліст Йохан Круіф ацаніў гульню галандцаў супраць мексіканцаў «ніжэй нуля».

Шмат каментарыяў было адносна матча Германія—Іран (2:0), за якім уважліва сачыў увесь германскі ўрад на чале з канцлерам Гельмутам Колем. Пасол Ірана ў Францыі Ахмед Азізі адзначыў: «Іранская зборная змагалася мужна і рабіла ўсё, каб не дапусціць немцаў да сваіх варот. Аднак не забывайце, што нам прыйшлося мець справу з адной з самых моцных каманд планеты».

У той жа дзень зборная ЗША ў прынцыповым паядынку ўступіла югаславам з лікам 0:1.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# СВЯТЫНЯ І ЯЕ СВЯТАР.



# ЁЙ — 100, ЯМУ — 83

**Гасподзь бараніў гэты храм. Падчас бамбардзіроўкі Мінска нямецкімі самалётамі 24 чэрвеня 1941 года адна з бомбаў трапіла ў будынак — помнік рускага царкоўнага барока. Прабіўшы купал, упала перад самым алтаром і... выбуху не адбылося.**

**Амаль гэтак жа (а мо і болей) неверагодна тое, што Аляксандра-Неўская царква ўцалела ў гады «атэістычнага» ліхалецця, калі тут, у Мінску, было знішчана тры чвэрці ўсіх культавых пабудоў.**



— Сто гадоў таму, у 1898-м, на тагачаснай гарадской ускраіне Доўгі Брод з'явіўся новы праваслаўны храм у імя святога князя Аляксандра Неўскага, — распавядае протаіерэй Віктар Бекаревіч (свяшчэннік больш чым у дзесятым калене, ён з'яўляецца тутэйшым настаяцелем ажно з 1959 года). — Узвядзенне царквы на Вайсковых могілках мела на мэце ўвекавечыць памяць воінаў, што загінулі падчас руска-турэцкай вайны 1877-78 гадоў, актыўны ўдзел у якой прымалі і ўраджэнцы Беларусі. Менавіта Мінскі пяхотны полк першым фарсіраваў Дунай. Вызначыліся беларускія апалчэнцы і пры ўзяцці Шыпкі, і ў баях пад Плеўнай. (Дарэчы, адным з военачальнікаў быў беларус па паходжанню князь Н.Святаполк-Мірскі). Гэта іх імёны золатам нанесены на мармуровыя пліты пры самым уваходзе ў царкву.

З моманту асвячэння храма і да гэтага часу чатыры разы ў год на ўсяленскія суботы, а таксама 3 сакавіка (дзень набыцця незалежнасці Балгарыяй) тут адбываюцца набажэнствы, падчас якіх героі памінаюцца ўсе, паймённа. А побач з апошнім прыстанкам тых, хто загінуў, вызваляючы Балгарыю, знаходзяцца магілы салдат Вялікай Айчыннай. Айца Віктара вайна застала ў вёсцы Латыгаль Вілейскага раёна, дзе ён меў прыход з 1938 года. Малады святар становіцца партызанскім сувязным. Тады ж ён дае прытулак двум уцекачам з Маладзечанскага канцлагера, выдаючы іх, як і многія навакольныя жыхары, за наёмных рабочых.

— Хлопцы так старанна маліліся, што я думаў: дай Бог кожнаму гэтак верыць. А месяцы праз тры яны прызнаюцца: «Бацька, мы да цябе прыглядаліся. Зараз бачым, што ты свой. Мы — камуністы». Хутка пасля гэтага пайшлі ў партызаны. Адзін з іх, Валодзя Мурашоў, былы сакратар партарганізацыі буйнога тульскага завода, потым загінуў. А перад смерцю прасіў: «Скажыце латыгальскаму бацюшку, што я сумленна прыняў смерць за Бацькаўшчыну. І за яго.» Аж з пінскіх лясоў, праз акупіраваную тэрыторыю, прыйшоў да мяне камісар партызанскага атрада з трыма таварышамі, каб перадаць гэтыя апошнія словы. Нягледзячы на велізарнейшую рызыку. Бо пакляўся Валодзю... Калі камісар расказваў мне, мароз па скуры прабягаў.

**— Пасля вайны да Вас наведваліся НКУСаўцы? Усё ж такі святар (а значыць, з іх пункту гледжання, нядобранадзейны), жыў у зоне акупацыі...**

— Ведаеце, пасля перамогі многія вілейскія партызаны сталі начальнікамі: сакратарамі гаркама, абкама, нават старшынёй прафсаюза БССР. Яны не давалі мяне чапаць. А што ўласна да НКУС, дык яшчэ з 39-га года ў маім царкоўным доме змяшчаўся сельсавет. Сюды часта па сваіх справах прыязджалі ўпаўнаважаныя НКУС, ваенкамата, райкама. І як яны там ні змагаліся з «рэлігійнымі забабонамі», а ніколі не грэбавалі папрасіць: «Бацюшка, а прынясі нам закускі».

На маім жыццёвым шляху Бог заўсёды пасылаў добрых людзей. Хоць, вядома, змест прапаведзяў даносілі «куды трэба». Сказаў раз «...и врата ада не одолеют церковь», — выклікалі, спыталі, што я меў на ўвазе. Альбо ўжыў у малітве слова «школьнікі», і мяне адразу паправілі: трэба казаць «дзеці». Гэткімі заўвагамі, на шчасце, усё і абмяжоўвалася.

**— Нават нягледзячы на тое, што Вы былі першым царкоўнікам, які пачаў спраўляць хросныя хады па вёсках у пасляваеннай Беларусі?**

— Аднойчы рэспубліканскі ўпаўнаважаны па справах рэлігіі па знаёмству паскардзіўся: «Там недзе ў тваім раёне чарнарызнік ёсць, па вёсках з іконкамі ходзіць, ваду каламуціць...» — «Дык гэта ж я», — кажу. У таго вочы акругліліся!

Казусы здараліся розныя: прыходзіць да мяне ў Стоўбцах жонка сакратара выканкама і гаворыць, што хацела б пахаваць свякра паводле хрысціянскага абраду. З кіраўніцтвам, маўляў, усё ўзгоднена. Добра, кажу. А ў гэтай мясцовасці традыцыя была такая, што, перш чым трапіць на могілкі, труну трэба пранесці кругам праз усе вуліцы. На скрыжаваннях працэсія абавязкова затрымлівалася, і я чытаў памінальную. Вось выходзім на плошчу Леніна, спыняемся дакладна насупраць помніка Ільічу. Мне неяк няёмка пачынаць «Господзі, супакой душу», я адыходжу на тры крокі, а сакратарка крычыць: «Усё ўзгоднена!..»

**— Айцец Віктар, ці памятаеце Вы той дзень, калі ўпершыню трапілі ў Аляксандра-Неўскі храм?**

— У 1953 годзе я меў яшчэ прыход у Стоўбцах, калі тэлеграмай быў выкліканы ў мінскую царкву Аляксандра Неўскага для атрымання царкоўнай узнагароды — паліцы. Тады правёў тут першую службу, пазнаёміўся з тагачасным настаяцелем Жаброўскім. Відаць, я яму спадабаўся, бо праз шэсць гадоў, калі яго адправілі за штат, Жаброўскі звярнуўся менавіта да мяне: «Айцец Віктар, ідзі на маё месца!»

Гэта наканаванне Боскае, што я стаў тутэйшым настаяцелем. І потым, як высветлілася, тут, на Вайсковых могілках, пахаваны сваякі маёй жонкі. Вось яны (і Гасподзь) мяне сюды і паклікалі.

**— Пэўна для таго, каб Вы абаранілі святыню ад знішчэння. Раскажыце, як гэта было.**

— На пачатку 60-х у СССР стаў выконвацца так званы «план» на закрыццё храмаў. Шмат у гэтым сэнсе залежала ад асобы ўпаўнаважанага на месцы. Беларусам не пашанцавала — упаўнаважаны Кавалёў зацята ненавідзеў рэлігію і ўсё з ёй звязанае (яго калегі «па сакрэту» казалі: «Мы самі молім Бога, каб Кавалёва хутчэй знялі»). Вось прыходжу я аднойчы да яго па справе назначэння свяшчэнніка, а ў прыёмнай сакратарка падзывае: Віктар Васільевіч, пачытай. І паказвае мне ліст-дакладную ў Маскву: маўляў, у Мінску на Вайсковых могілках ёсць храм, да вайны ён быў майстэрняй па вырабу дамавін, але царкоўнікі падманам авалодалі будынкам. І зараз, піша, пахавальнае бюро патрабуе вяртання памяшкання... А ніякай майстэрні тут ніколі не было! (Храм быў зачынены ўсяго тры гады — з 1938-га па 41-шы. Тым не менш бабкі прыходзілі, ставілі ля сцен свечкі, маліліся.) Што рабіць?

Тады Гасподзь дае мне думку. Я пішу артыкул у «Журнал Московской Патриярхии»: «У сувязі з 20-годдзем вызвалення брацкага балгарскага народа ў Мінску быў пабудаваны храм-помнік інтэрнацыяналізму...» І гэтак далей. Прыгадаў, што з той жа нагоды царква Аляксандра Неўскага была ўзведзена і зараз дзейнічае ў Сафіі. Пасля надрукавання ніякіх спроб з боку ўладаў фальсіфікаваць гісторыю не было.

**— Дзевяць гадоў (з 1970-га па 1979-ты) Вы правялі ў Вене ў якасці настаяцеля Свята-Мікалаеўскага сабора пры савецкай амбасадзе. Якім чынам Вы трапілі ў сталіцу Аўстрыі?**

— У канцы 1969-га мяне выклікалі ў Маскву, у аддзел знешнецаркоўных зносінаў. Сказалі: трэба ехаць святаром у Вену. А я нікуды са сваёй Беларусі ехаць не хацеў. Таму на наступны дзень, пайшоўшы на медагляд у паліклініку, прыкупіў каробку цукерак. Даю яе дактарыцы і кажу: «Родненькая, напішыце, што я хворы. Калі ласка». Праз дзень на руках была даведка: «Проціпаказаны доўгія загранкамандзіроўкі. Патрабуецца сістэматычнае назіранне ўрача». А наступнай ноччу я бачу сон: Свяціцель Мікалай у поўным духоўным адзенні кідае мне нейкі мяшочак. А ў ім 2 срэбныя манеты. У нас жа, адзначу, у сям'і заўсёды вельмі шанавалі Мікалая-ўгодніка. Тэлефаную маці, а яна кажа: «Здаецца, Мікалай благаслаўляе цябе». Калі ж я даведаўся, што храм у Вене ў імя Святога Мікалая, дык парваў сваю даведку і паехаў.

**— Хто быў Вашымі тамтэйшымі прыхажанамі?**

— Былыя графы, князі, баранэсы. Нашчадак князя Трубяцкога ў мяне, напрыклад, быў касірам.

**— А супрацоўнікам амбасады забаранялася наведваць храм?**

— Не. Дарэчы, з пасламі мне пашанцавала. Яны не толькі не былі супраць царквы, але і заўсёды дапамагалі. Аднойчы дах у бажніцы працёк, я пазваніў паслу Яфрэмаву. Ужо наступным ранкам пад купалам працавалі нашы сталяры-муляры. Прыходзіць бабулька-эмігрантка, пытаецца: «Бацюшка, хто гэта робіць?» — «Бальшавікі». Трэба было бачыць яе здзіўленне!

**— Пасля такіх ідылічных адносінаў да рэлігіі там Вам цяжка было вяртацца ў краіну ваяўнічых атэістаў?**

— На той час пачало чамусьці з'яўляцца ў газетах шмат абразлівых для царквы фельетонаў і анекдотаў: поп украў гуся, поп напіўся... Я прыходжу ў 82-м да ўпаўнаважанага і кажу: «Дзякуй вам ад імя ўсёй царквы. Вы нам дапамагаеце, ствараеце моцны касцяк веруючых. Бо забаронены плод — ён жа салодкі».

**— Вышэй Вы ўзгадалі пра атрыманне паліцы. Але, я ведаю, у Вас шмат узнагарод. У тым ліку дзяржаўных.**

— Мне няёмка пра гэта расказваць. Што ж, я раскажу, а вы самі вырашайце, пісаць ці не. Царква ўзнагародзіла мяне ордэнамі князя Уладзіміра II ступені, Даніїла Маскоўскага II ступені, Сергія Раданежскага III і II ступеняў. А дзяржава адзначыла маю працу ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалём Жукава і некалькімі юбілейнымі медалямі — да гадавін Перамогі, ганаровым медалём Савецкага фонду міру, некалькімі ганаровымі граматамі.

**— Царква Аляксандра Неўскага адразу пасля пабудовы належала ваеннаму ведамству. Сярод яе рэліквій вось ужо 100 гадоў знаходзяцца паходны алтар і харугвы беларускага палка — удзельніка баёў у Балгарыі. Айцец Віктар, як Вы ставіцеся да таго, каб аднаўляць страчаную за савецкім часам традыцыю — вяртаць Веру ў войскі?**

— Нядаўна да нас у царкву звярнуліся са школы міліцыі: жадаем стварыць у сябе куток Веры. Мы падарылі ім ікону Божай Маці, падсвечнікі. Бацюшка асвяціў месца. Акрамя плёну, калі яно робіцца па добрай ахвоце, гэта нічога не дасць. Бо любая рэлігія выхоўвае чалавека ў любові і згодзе, дзе б той ні служыў. А таксама ў павазе да найсвяцейшага, на мой погляд, паняцця — «МАЦІ»: сваёй уласнай маці, маці-царквы, да Радзімы-маці.

**Гутарыў**
**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

# ТБМ імя Ф. Скарыны выселілі з памяшкання

**Увогуле, працэс пачаўся яшчэ 25 чэрвеня, а 26-га цікаўныя маглі назіраць у офісе Таварыства ў асноўным голыя сцены. Супрацоўнікі грузілі на машыну рэчы, хадзіў ветлівы судовы выканаўца, а непадалёк шпацыравалі трое міліцыянераў. Меркавалася, што будуць «эксцэсы», вось яны тут і былі паблізу. Эксцэсаў не было. А міліцыянеры былі.**

Перадгісторыя высялення пачалася яшчэ летась. Тады ЖРЭА Партызанскага раёна сталіцы прымусіла кіраўніцтва ТБМ падпісаць новы арэндны дагавор. Згодна з ім Таварыства павінна было плаціць за квадратны метр плошчы па 10 долараў. Прычым разлік ішоў якраз у доларах па курсу. Іншымі словамі, выходзіла сума неверагодная. Таварыства не магло і не можа плаціць такія грошы. Спецыяльна для чыноўнікаў Партызанскага ЖРЭА неабходна патлумачыць: Таварыства беларускай мовы — арганізацыя грамадская, якая функцыянуе выключна на сродкі ад членскіх узносаў і добраахвотныя ахвяраванні. Паколькі асноўныя прыхільнікі роднай мовы ў нас — пенсіянеры ды студэнты, ахвяраванні цяжка назваць фантастычна шчодрымі.

Праблема з выплатай грошай за арэнду існавала і летась. Але тады да кіраўніцтва ТБМ прыйшоў паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін. Ён здолеў арганізаваць збор сродкаў, дапамаглі, у прыватнасці, амерыканскія беларусы. Аднак сёлета сітуацыя паўтарылася адзін да аднаго. Зноў даўгі, зноў няпэўнае становішча, але цяпер ЖРЭА пайшло ў наступ.

Камунальшчыкі звярнуліся ў Мінскі абласны гаспадарчы суд з іскам на суму 800 з нечым мільёнаў рублёў і просьбай у судовым парадку выселіць злоснага неплацельшчыка. Суд пайшоў Таварыству насустрач толькі ў адным: суму іску знізіў да 540 мільёнаў. У астатнім, калі ласка, пакіньце памяшканне — і новых поспехаў у рабоце...

Генадзь Бураўкін пайшоў па інстанцыях. Было адпраўлена пісьмо на імя прэзідэнта краіны. Таварыства прасіла аднаго: каб кіраўнік краіны паспрыяў атрыманню льготы, якая вынікае з п. 10 Указа Прэзідэнта «Аб увядзенні адзінай тарыфнай стаўкі за арэнду нежылога фонду».

Генадзь Мікалаевіч наведаў таксама мэра горада Уладзіміра Ярмошына. І знайшоў у таго поўнае разуменне. «Я не бачу праблемы, — зазначыў Уладзімір Васільевіч. — Мы дадзім вам ільготы. Абяцаю дапамагчы Таварыству з рамонтам памяшкання». Апрача таго, была складзена і накіравана скарга ў Вышэйшы гаспадарчы суд краіны. Яна, падкрэслю, яшчэ не разгледжана і рашэнне па ёй не прынята. Плюс да гэтага папрасілі суддзю не спяшацца з вынясеннем вердыкту ў абласным гаспадарчым судзе. Як быццам, механізм запусцілі. Але 13 мая гаспадарчы суд Мінскай вобласці пастанавіў выселіць Таварыства беларускай мовы з займаемага памяшкання і заплаціць ЖРЭА 540 мільёнаў рублёў. Намаганні аказаліся дарэмнымі...

Цікава, што адпаведная дэпутацкая камісія Мінгарвыканкама ў сваю чаргу прыняла рашэнне даць патрэбныя льготы ТБМ. У прыватнасці, па гэтаму рашэнню ТБМ ужо з 1 мая за арэнду магло плаціць з разліку 1 долар за квадратны метр. А 25 чэрвеня з'явіўся судовы выканаўца...

Падвядзём вынікі. У 1989 годзе дзяржава дала Таварыству гэта памяшканне, у 1998-м — адабрала. Ёсць пытанне: чаму адміністрацыя Партызанскага раёна стала такой рашучай? Канчатковага судовага рашэння няма — значыць з высяленнем трэба пачакаць. Мінгарвыканкам ва ўсім ідзе насустрач, а раённая ўлада, атрымліваецца, — не...

— Мы — непалітычная арганізацыя, — падкрэсліў Генадзь Бураўкін. — Мы толькі аб'ядноўваем прыхільнікаў беларускай мовы, хоць камуністаў, хоць членаў БНФ, хоць каго яшчэ. Не трэба ўцягваць нас у палітычныя гульні. Мы гэтага не хочам і на гэта не пойдзем. Каму трэба нас таптаць?..

Камусьці, Генадзь Мікалаевіч, відаць, трэба...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.38 | 21.45 | 17.07 |
| Віцебск – | 4.20 | 21.44 | 17.24 |
| Магілёў – | 4.28 | 21.34 | 17.06 |
| Гомель – | 4.35 | 21.22 | 16.47 |
| Гродна – | 4.56 | 21.59 | 17.03 |
| Брэст – | 5.05 | 21.50 | 16.45 |

**МЕСЯЦ**

**Маладзік 24 чэрвеня.**

*З 7.38 – 4-ыя месяцавыя суткі. Месяц – у сузор'і Льва.*

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Елісея, Мяфодзія, Мсціслава**
**К. Ёанны, Уладзіслава**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, у паўднёва-заходніх раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 18—20, Мінску — 19—21, Гродне і Гомелі — 20—22, Брэсце — 21—23 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 28-га — месцамі, 29-га ўначы — па паўночнаму ўсходу кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 8—13, удзень — 18—23, па поўдню — да 25 градусаў цяпла.

## ВІНШАВАННІ

*Шчыра віншуем з 70-годдзем* ***Франца Баляслававіча ЦІХАНА*** *з г. п. Першамайскі Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Жадаем здароўя, дабрабыту, цяпла ад родных, радасці ад унукаў.*

**Дзеці, унукі.**

*Віншуем дарагую* **Надзею РАЦЬКО** *з 22-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, любові і бадзёрасці.*

**Родныя,** г. Маладзечна.

*Ад усяго сэрца віншуем з днём нараджэння мамачку і бабулю* **Кацярыну Емяльянаўну ЧУРКО**. *Шчыра жадаем здароўя, дабрабыту, шчасця.*

**Дзеці, унукі,** г. Докшыцы.

*Віншую* **Вольгу СЕЗАНЕНКА** *(в. Двор Пліна Ушацкага раёна).*
*«Букетик роз и неба голубого,*
*Улыбок, солнца, радости, любви,*
*И счастья в мире самого большого*
*Желаю я от всей души тебе».*

**Мама.**

**Сістэма адукацыі — з тых галін, што датычацца, лічы, да ўсяго насельніцтва. У асаблівай ступені масавая ўвага да школы праяўляецца ў тыя моманты, калі ўзнікае пытанне пра змены, рэформы. Як, прыкладам, зараз, калі ўсе чакаюць, што ж гэта такое — 12-гадовая сістэма адукацыі. І сапраўды, што ж гэта такое?.. На пытанні нашага карэспандэнта адказвае міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіль Іванавіч СТРАЖАЎ.**



# Васіль Стражаў:

# *«Вёсцы будзем усямерна дапамагаць. Таленты размяркоўваюцца аднолькава»*

**— СКАЖЫЦЕ, калі ласка, як будзе адбывацца пераход на 12-гадовую сістэму адукацыі?**

— Фактычна рэформы ў школе ідуць даўно. Працэс гэты закрануў многія сферы дзейнасці. Што да сёлетніх змен, то тыя, хто 1 верасня 1998 года прыйдзе ў падрыхтоўчы клас, будуць навучацца па праграме 12-гадовай школы, якую павінны закончыць у 2010 годзе. Навошта мы назвалі 1-шы клас падрыхтоўчым?.. Па праграме ж падрыхтоўчы клас мала чым адрозніваецца ад першага. Калі параўноўваць умоўна, спрошчана, то ў сёлетнім падрыхтоўчым будзе 80 працэнтаў ад праграмы першага класа. Ёсць тры вельмі важкія акалічнасці. Першая — насельніцтва краіны пачало ўспрымаць першы як клас для 7-гадовых дзяцей (хаця пры 11-гадовай сістэме адукацыі ён задумваўся для шасцігодак). Па-другое, у горадзе склаліся ўсе ўмовы для навучання шасцігодак, а гэта дастатковая наяўнасць свабодных памяшканняў у дзіцячых садзіках. Пагадзіцеся, што яны ствараліся ў дастатковай колькасці пад іншую дэмаграфічную сітуацыю — пад большую колькасць дзяцей. Так што навучанне шасцігодак ва ўмовах дзіцячага сада дазваляе вытрымліваць рэжым, не забывацца на сон, харчаванне. І ўжо сёлета ў падрыхтоўчы клас па ўсёй краіне прыйдзе 80 працэнтаў ад агульнай колькасці шасцігодак. На будучы год чакаем у падрыхтоўчым класе 85 працэнтаў 6-гадовых дзяцей. Трэцяя акалічнасць — са стварэннем падрыхтоўчага класа і, адпаведна, 12-гадовай сістэмы навучання адбылася разгрузка праграмы ў параўнанні з былым 1-м класам прыблізна на 20 працэнтаў. Сучасны падрыхтоўчы клас уяўляе нешта сярэдняе паміж падрыхтоўчай групай і 1-м класам. Дарэчы, сумненні, што часам гучаць адносна таго, ці пойдуць 6-годкі 1 верасня ў школу, дарэмныя. Ужо зараз 43 працэнты шасцігодак вучацца ў школе.

**— А што ў сельскай мясцовасці?.. Там жа, зразумела, нашмат менш дзіцячых садзікаў...**

— У цэлым па краіне ў сельскай мясцовасці ўжо ў 1997/98 навучальным годзе 62 працэнты шасцігодак навучаліся ў першым класе. Ёсць вобласці, дзе і звыш 70 працэнтаў. Прычына такой актыўнасці зразумелая. Калі не працуе дзіцячы сад, то бацькам лепей аддаць дзіця ў школу, чым яно будзе сядзець дома. Да таго ж школы працуюць у адну змену. Для шасцігодак, калі гаварыць пра рэжым, харчаванне, сон, і ў сельскіх школах будуць стварацца адпаведныя ўмовы.

Думаю, дарэчы будзе, гаворачы пра новыя як быццам бы клопаты, нагадаць і такую лічбу. У 1987 годзе ў рэспубліцы 93 працэнты шасцігодак хадзілі ў школу. Так што ў прынцыпе мы вяртаемся ў нечым да старога вопыту.

**— Але, відавочна, стварэнне падрыхтоўчага класа — гэта і складанасці для навучальнага працэсу, складанасці з методыкай навучання?..**

— Я б так не сказаў. Калі гаварыць увогуле, то з падручнікамі ніякіх асаблівых складанасцяў няма. Фактычна можна было б пераклеіць, змяніць вокладкі 1-га класа на падрыхтоўчы. Але мы іх дапрацавалі і палепшылі. Я ўжо казаў пра некаторае скарачэнне праграмы. Сёе-тое ў выкладанні спрошчана.

**— Васіль Іванавіч, а чаму, дарэчы, пры павелічэнні тэрміну навучання ў школе ранейшай застаецца нумарацыя?**

— Так, сапраўды шасцігодкі ідуць у падрыхтоўчы клас. А на другі год навучання — у першы. Звыклая нумарацыя захавана з улікам псіхалогіі людзей. Апошнім усё роўна застаецца 11-ты клас. Ды і ў прынцыпе зараз у пачатковых класах якраз нічога амаль што не мяняецца. Змены адбыліся раней.

**— Часам ідзе гаворка пра істотныя змены ў змесце адукацыі ў самай бліжэйшай будучыні. Называюцца і розныя гады...**

— Змены пачнуцца ў 2002 годзе. Але я не назваў бы іх істотнымі. Ізноў жа калі гаварыць увогуле, з разлікам на масавую аўдыторыю, не дужа засяроджваючыся на педагагічнай, адукацыйнай кухні, павінна адбыцца вось што. 11-гадовая праграма навучання разводзіцца, раскладваецца на 12 гадоў. Па-першае, пяцідзённая сістэма навучання з самага першага па апошні гады навучання. 34 вучэбныя гадзіны на тыдзень. Можа хіба што толькі дадасца крышачку новага ў гуманітарны цыкл навучання.

І вось што я хацеў бы заўважыць, папярэдзіўшы, магчыма, новыя пытанні. Рэформа школы — гэта пытанне, калі гаварыць пра практычныя рэйкі, 2002 года. Менавіта ў 2002 годзе каля 80 працэнтаў тых, хто закончыць пачатковую школу, будуць ва ўзросце 10 гадоў.

**— Васіль Іванавіч, вы сказалі пра павелічэнне зместу гуманітарнага цыкла...**

— У першую чаргу змены адбудуцца ў дачыненні да аб'ёмаў выкладання замежных моў. Што ў нас сёння ў гэтым плане адбываецца? Кожны трэці малодшы школьнік вывучае замежную мову. Але патрэбна павелічэнне колькасці гадзін. Школа патрабуе і большай колькасці настаўнікаў замежнай мовы.

**— Што датычыць настаўніцтва, то якія праблемы зараз найболей адчувальныя?**

— Першае, трэба павялічыць матэрыяльнае забеспячэнне. Клопат вырашальны толькі на ўзроўні ўрада, міністэрства ўносіць адпаведныя прапановы. Другое, што пад сілу ўжо і міністэрству, — паляпшэнне метадычнага забеспячэння. Але ў гэтым накірунку шмат што зараз у нас робіцца. Выдаюцца метадычныя часопісы, ствараецца новая літаратура і г. д.

**— Карыстаючыся нагодай, хацелася б запытацца і вось пра што. Якія асаблівасці, якія адрозненні чакаюць выпускнікоў сёлетняга года ў час здачы прыёмных экзаменаў у ВНУ краіны?**

— Рэзкіх адрозненняў няма. Але дзве асаблівасці трэба ведаць. Першая (і гэта ўжо добра вядома) — раней, чым звычайна, пачынаюцца ўступныя экзамены ў Белдзяржуніверсітэт. Цалкам падтрымліваю такую практыку. Пры ўмове няўдалай здачы экзаменаў у БДУ ў абітурыента застаецца шанц паспрабаваць сябе на экзаменах у іншую ВНУ. Другая асаблівасць заключаецца ў тым, што па шэрагу спецыяльнасцяў пры паступленні на адну і тую ж спецыяльнасць конкурсы па выніках здачы экзаменаў праводзяцца асобна для сельскіх і гарадскіх выпускнікоў. Напрыклад, на 60 месцаў пададзена 120 заяў. 100 — ад выпускнікоў гарадскіх школ, 20 — ад сельскіх. У такім разе, паколькі заявы ад сельскіх выпускнікоў складаюць адну шостую ад усёй колькасці, адна шостая месцаў і павінна разглядацца на конкурсе для сельскіх вучняў па выніках уступных экзаменаў. Хаця педагагічных ВНУ падобная практыка не датычыцца, бо там існуюць мэтавыя і кантрактныя сістэмы паступлення для сельскай моладзі. Там, наадварот, гараджанам трэба дапамагаць паступіць. Дарэчы, па статыстыцы, з вёскі ў ВНУ паступае кожны пяты выпускнік, з горада — кожны чацвёрты. Як бачым, розніца ўжо невялікая. Хаця, падкрэслю яшчэ раз, вёсцы будзем усямерна дапамагаць. Таленты размяркоўваюцца аднолькава.

**— Васіль Іванавіч, і яшчэ адно пытанне. У часткі грамадскасці, асабліва ў бацькоў, чые дзеці вучацца ў гэтай навучальнай установе, вялікую трывогу выклікае сітуацыя вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя. Ці будуць яго зачыняць, ці будуць аб'ядноўваць з іншай установай падобнага тыпу?.. Словам, пракаменціруйце гэтую сітуацыю.**

— Па-першае, у міністэрства і ўрада ніколі не было жадання скараціць магчымасці навучання на беларускай мове, у тым ліку і ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Па-другое, ніякіх перашкод для далейшага навучання вучням Беларускага гуманітарнага ліцэя не існуе.

Гутарыў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

# Беларускі гуманітарны ліцэй патрэбен грамадству і дзяржаве

**Як сведчыць рэдакцыйная пошта, пытанне аб рэарганізацыі Беларускага гуманітарнага ліцэя, узнятае газетай «Звязда» 9 чэрвеня, моцна ўсхвалявала чытачоў і грамадскасць у цэлым. І перш за ўсё тых грамадзян, у якіх душа баліць за беларускую мову, культуру, свядомасць, дзяржаву. Таму і прыйшлі на наш адрас вось такія вострыя і пякучыя словы-водгукі.**

**На жаль, пасля публікацыі ад 9 чэрвеня аб сітуацыі вакол ліцэя ад дзяржаўных структур ніякіх водгукаў не было. Але спадзяёмся, што яны будуць, і чакаем іх. Пакуль жа знаёмім чытачоў з тымі водгукамі, якія прыйшлі.**

### *Мы хочам тут вучыцца!*

Мы, вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя, сталі ў пікет, каб абараніць сваё права на адукацыю. Згодна з праектам, які падрыхтаваны ў Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, наш ліцэй хочуць аб'яднаць з ліцэем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Мы не супраць БДУ. Многія з нас мараць паступіць у гэтую славутую навучальную ўстанову, але праз 4 (для каго — праз 2-3) гады. А зараз мы хочам вучыцца тут, у нашым і адзіным ва ўсім свеце цалкам беларускамоўным ліцэі. Мы вытрымалі вялікі конкурс, каб паступіць менавіта сюды, а зараз, калі аб'яднанне адбудзецца, навучэнцам першага і другога курсаў прыйдзецца з ліцэем развітацца. Але і тыя, хто застанецца, не згодны з аб'яднаннем. Яны таксама лічаць, што «зліццё» прывядзе да страты ліцэем свайго аблічча, а фактычна — да знікнення.

**Вучні 1—4 курсаў Беларускага гуманітарнага ліцэя.**

### *Беларускі гуманітарны ліцэй: не закрываць адзіны, а адкрываць новыя*

У мінулым годзе хацелі выселіць ліцэй з яго будынка. Толькі адбіліся ад той навалы, як ідзе новая: вырашылі ўключыць Беларускі гуманітарны ліцэй у ліцэй пры БДУ, а фактычна гэта значыць ліквідаваць яго. Пад выглядам «обеспечить наиболее благоприятные условия для реализации государственной программы по поддержке творческой и одаренной молодежи республики, эффективного использования интеллектуального потенциала и материально-технической базы Белорусского государственного университета в обучении и воспитании учащихся на основе национально-культурных традиций Беларуси...» (цытата з праекта пастановы СМ РБ). Як выдатна ўсё гучыць! Але большасць навучэнцаў, настаўнікаў, бацькоў рэзка выступаюць супраць такога аб'яднання. Каб убіць клін паміж выкладчыкамі, раз'яднаць іх, прапануецца павялічыць ім зарплату, «...распространив на них условия оплаты труда профессорско-преподавательского состава Белгосуниверситета» (дарэчы, чаму такая дыскрымінацыя да іншых ВНУ?).

У гэтым годзе ў Беларускі гуманітарны ліцэй быў вялікі конкурс — 5 чалавек на адно месца. Значыць, маладыя людзі хочуць вучыцца ў такім ліцэі (і бацькі падтрымліваюць іх у гэтым). Не закрываць ліцэй патрэбна, а ствараць новыя, прычым калі лічыць па конкурсу, дык ужо зараз неабходна мець не менш чым пяць беларускамоўных ліцэяў. Абавязкова трэба ўсім, хто хоча, даць магчымасць вучыцца на роднай мове і тым самым забяспечыць іх канстытуцыйнае правы.

**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік.**

### *Ламаць — не будаваць! А душа баліць...*

Чаму такую каштоўнасць маюць старыя антыкварныя рэчы, за якімі, як кажуць, ёсць гісторыя? І стары будынак бліжэй да сэрца, чым толькі што пабудаваны асабняк, і вытрыманае віно валодае больш тонкім смакам. Мабыць час матэрыялізуецца у іх, ствараючы нейкую ауру, якая і ўздзейнічае на нас. Тое, што вытрымала праверку часам, асабліва нашым бурным векам — мае права жыць доўга. Беларускі гуманітарны ліцэй нарадзіўся, жыў і развіваўся ў няпростыя гады. Не ведаю, чым выклікана рашэнне аб'яднаць гуманітарны ліцэй і ліцэй пры БДУ. Дапускаю, што ў гэтым, мабыць, ёсць нейкая слушнасць, толькі не ляжыць у мяне душа да гэтага наватарства. Тоіцца за гэтым штосьці механічнае, непрадуманае. Хочацца як лепш, а атрымаецца...? Маю падставу сцвярджаць, што ліцэй выпускае выдатных адукаваных людзей. Бачу ў ім чыстую крыніцу ведаў, высокай культуры, жывую клетку новага, цывілізаванага грамадства, дзе інтэлект стане вышэйшай меркай карыснасці і сацыяльнай значнасці чалавека. Звяртаюся да тых, ад каго залежыць лёс ліцэя. Не разбурайце добрае, не знішчайце гэты аазіс, іх у нас не так ужо многа!

**Барыс ЛУЦЭНКА, народны артыст Беларусі.**

### *Не знішчайце парастак беларускасці*

Ва ўсёй гэтай гісторыі з адзіным нашым Беларускім ліцэем адназначна прaглядваецца жаданне не «улучшить», не «реорганизовать» навучанне ў ім, а проста яго знішчыць. Знішчыць той невялікі парастак сапраўднай беларускасці, які нам, творцам, таксама патрэбен. Мы існуём дзеля гледачоў разумных, выхаваных і навучаных думаць самастойна, разняволена, увабраўшы ў сябе лепшыя ідэалы развіцця ўсяго чалавецтва. Толькі разумны глядач падштурхоўвае, актывізуе мастака ствараць усё больш і больш дасканалыя творы. І самае галоўнае: нам патрэбен і самасвядомы глядач, які ў новым тысячагоддзі вымушаны будзе ўліцца ў магутную, бурную плынь заходнееўрапейскай культуры, якая лёгка асімілюе, сатрэ нашу кволую ідэнтычнасць. Ад гэтага нікуды не дзецца, і вось тут мы не павінны разам з ім, нашым гледачом, згубіць сябе, сябе — носьбіта сваёй адметнасці. І адметнасць гэта — беларус!

Сцвярджэнне, што наша мова маласпрацаваная, «калхозная», абсурднае ў сваёй сутнасці. Не мова прымітыўная, а той, хто яе нясе, хто ёй валодае. Нам давялося перажыць комплекс «непаўнацэннасці» сваёй мовы падчас Эдынбургскага фестывалю. «Шэкспір па-беларуску, ды яшчэ на радзіме самога Шэкспіра!» «Ды вы вар'яты!» — запэўнівалі нас яшчэ дома. І якія мы былі шчаслівыя, калі вялікія знаўцы англійскай мовы прафесар Оксфардскага універсітэта Майкл Гірэн-Тош і вядомы многім прафесар Алан Флаўэрс, а таксама прафесар Сарбоны Гай Пікард рабілі нам кампліменты, звяртаючы ўвагу на асаблівую меладычнасць нашай мовы. А малады сэр лорд Нікалас Шэленберг з таго часу не прапускае ніводнай нашай прэм'еры тут, у Мінску, для яго тысяча кіламетраў не перашкода, і нават з задавальненнем вучыць беларускія словы.

Думаем, што настае час усім нам схамянуцца, бо справа не толькі ў адным ліцэі. Мы, творчыя службоўцы Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, заклікаем усіх, ад каго залежыць лёс адзінай па-сапраўднаму творчай навучальнай установы, не дапусціць герастратавай справы.

**Валерый МАЗЫНСКІ, мастацкі кіраўнік тэатра і 25 супрацоўнікаў тэатра, якія падпісаліся.**

### *Мы непакоімся за лёс нашых дзяцей*

Мы, бацькі навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэя, безумоўна, самыя зацікаўленыя аўтары водгукаў на артыкул, які быў надрукаваны ў «Звяздзе» ад 9 чэрвеня 1998 г. Але нашая зацікаўленасць зыходзіць найперш з клопату за лёс нашых дзяцей, імкнення забяспечыць іх стабільную будучыню.

Прыводзячы нашых дзяцей у ліцэй, мы ўлічвалі добрыя традыцыі, якія склаліся ў гэтай установе, высокі ўзровень выкладання і падрыхтоўкі да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. На шчасце, не расчараваліся. Узровень навучальнага працэсу непараўнальна вышэйшы за школы, якія пакінулі нашы дзеці (а сярод гэтых школ былі і гімназіі, і проста прэстыжныя мінскія школы). У ліцэі створана асаблівая атмасфера павагі да працы, падлеткі нечакана сур'ёзна ставяцца да атрымання ведаў, разумеюць іх каштоўнасць. Паглыбленае і комплекснае вывучэнне дысцыплін гуманітарнага цыкла на працягу чатырох гадоў (у параўнанні са звычайнымі ліцэйскімі 2 гадамі), вядома, спрыяе фарміраванню высокадасканалай сістэмы ведаў. Вялікі конкурс пры паступленні, а значыцца адбор сапраўды мацнейшых у лік навучэнцаў, а таксама найвышэйшая кваліфікацыя выкладчыкаў дапаўняюць становучае ўяўленне аб ліцэі. І як вынік — паступленне ў вядучыя і самыя прэстыжныя ВНУ Беларусі.

Па сутнасці, за гады існавання ў ліцэі склаўся асаблівы клімат, які характарызуецца спалучэннем паважных адносінаў да асобы навучэнцаў з боку выкладчыкаў, а з іншага боку — сур'ёзнага стаўлення навучэнцаў да навучальнага працэсу. Любыя істотныя змяненні могуць парушыць гэтую атмасферу, шмат намаганняў пойдзе на вырашэнне адметных ад вучобы пытанняў. Больш за тое, пераход да двухгадовага ліцэйскага курса (як ва універсітэце БДУ), на нашу думку, пагоршыць тую сістэму комплекснай гуманітарнай адукацыі, якая склалася ў ліцэі і добра сябе зарэкамендавала.

Непакоячыся за лёс нашых дзяцей, мы з вялікай трывогай назіраем за шматгадовымі праблемамі, што ўзнікаюць адносна будучыні Беларускага ліцэя. Незразумела, чаму пры наяўнасці ў сталіцы дзяржавы толькі двух ліцэяў наогул паўстае пытанне аб скасаванні, аб'яднанні ці іншай рэарганізацыі? На нашу думку, колькасць устаноў згаданага тыпу мае толькі расці, асабліва ў рэчышчы рэформы сістэмы адукацыі, якая распачата на Беларусі. Хочацца верыць, што адзіны ў Беларусі беларускамоўны ліцэй, які забяспечвае нашым дзецям найвышэйшы ўзровень гуманітарнай адукацыі, рыхтуе сапраўды элітныя кадры і мацуе аўтарытэт нашай дзяржавы, будзе існаваць як самастойная навучальная ўстанова і знаходзіць падтрымку з боку ўладаў.

**Бацькі навучэнцаў 21-й групы А. НАРОЎСКАЯ, С. КРЫШТАПОВІЧ і іншыя.**

***P. S.* *У апошні момант стала вядома, што бацькі навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэя сустрэліся з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным і той запэўніў, што працэс «зліцця» спынены. Міністр адукацыі Беларусі Васіль Стражаў таксама падкрэсліў карэспандэнту «Звязды», што ліквідацыі названага ліцэя не адбудзецца. Гэта ўсяляе пэўны аптымізм. Ва ўрадзе падрыхтаваны новы праект пераўтварэння ліцэя, але пакуль што азнаёміцца з ім няма магчымасці. Сутнасць яго ў тым, што Беларускі ліцэй захавае свой будынак, 4-гадовы цыкл навучання і ў перспектыве будзе павялічана колькасць навучэнцаў да 400 чалавек. Аднак, як паведаміў Грамадскі камітэт абароны Беларускага гуманітарнага ліцэя, у бацькоў і навучэнцаў выклікае неспакой адсутнасць афіцыйнай інфармацыі на гэты конт.***

**Валер КАЛІНОЎСКІ, рэдактар аддзела газеты «Звязда».**

**На імя старшыні Баранавіцкай арганізацыі Чырвонага Крыжа Людмілы Юрчанка прыйшло пісьмо з Францыі, ад кіраўніка фірмы «Жаквот» Філіпа Жака. Гэта быў адказ на адпаведнае пісьмо Л. Юрчанка, якое яна паслала Ф. Жаку 18 кастрычніка 1996 года.**

**У сваім лісце француз паведамляе, што ў Баранавічы будзе адпраўлена гуманітарная дапамога, і яе атрымае мясцовы Чырвоны Крыж.**

# ПАД ДАХАМ ЧЫРВОНАГА КРЫЖА

## НЮАНСЫ КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЫ

УСЁ БЫЛО Б даволі ясна, калі б не два моманты. Ф. Жак паведамляе Юрчанка, што «Вы можаце тавар прадаць і выкарыстаць грошы ў місіянерскіх мэтах», а ў канцы француз просіць перавесці фірме «Жаквот» 4200 долараў «...за ўпакоўку, пагрузку і транспарціроўку грузаў...» на працягу трох месяцаў пасля іх атрымання.

Гэтыя ўмовы ўжо на самым пачатку былі непрымальныя для Чырвонага Крыжа. Бо грамадская арганізацыя пры ўсім жаданні не магла займацца камерцыйнай дзейнасцю і па рэкамендацыі адпраўшчыка гуманітарнай дапамогі прадаваць яе. І па-другое, адкуль было ўзяць Баранавіцкаму аддзяленню 4200 долараў, каб пералічыць іх фірме «Жаквот»?

Але гэта менш за ўсё турбуе Л. Юрчанка, бо ўзначальваемая ёю арганізацыя і не збіралася плаціць. У старшыні Чырвонага Крыжа на гэты конт былі свае планы.

І вось гуманітарная дапамога прыйшла.

Фірма «Жаквот» 17.12.96 г. адправіла на адрас Чырвонага Крыжа ў Баранавічах 13 т 193 кг кандытарскіх вырабаў коштам 20.000 франкаў, ці 59.197.600 рублёў.

Атрымаўшы гуманітарны груз, Л. Юрчанка адправіла яго ў Мінск ТАА «Ліквід-Койл», а ўзамен фірма пералічыла на рахунак Чырвонага Крыжа 21.150.000 рублёў дабрачыннага ўзносу.

Адправіла груз Юрчанка самастойна і тайна. Пра дапамогу не ведалі ў камісіі па пытаннях размеркавання гуманітарнай дапамогі пры гарвыканкаме, як і ўтаіла старшыня інфармацыю пра груз ад аналагічнай камісіі пры сваёй арганізацыі.

Праз тры месяцы (25.03.97 г.) французы зноў адпраўляюць груз у Баранавічы. На гэты раз 12 т 30 кг коштам 112.592.846 рублёў.

І зноў Л. Юрчанка накіроўвае груз у сталіцу, але ўжо другому ТАА — «Чатыры сезоны», а на рахунак Чырвонага Крыжа паступае 25.250.000 рублёў.

Але не толькі з Францыі атрымлівае Юрчанка гуманітарны груз. Югаслаўская кандытарская фабрыка «Сако Штарк» накіравала ў Баранавічы прадуктаў на суму 274.368.850 рублёў.

Югаслаўская дапамога была адпраўлена 22.03.97 г. і налічвала 2663 скрынкі салодкіх вырабаў агульнай вагой 10 т 540 кг.

Груз паступае на мытню «Заходні Буг» 31 сакавіка 1997 г. і, згодна з дэкларацыяй, Баранавічы павінны атрымаць 2663 скрынкі, але вагой толькі 9340 кг. Кудысьці знікла 1200 кг ласункаў.

Улік грузу з Югаславіі ў Баранавічах не вядзецца. Пры праверцы прадстаўляецца акт ад 26 сакавіка 1997 г., хаця на мытню гэты груз прыбыў, як мы ведаем, 31 сакавіка, які сведчыць, што з Югаславіі паступіла толькі 90 скрынак вырабаў на суму 16.932.800 рублёў.

А ўсяго, як сведчыць другі акт за подпісам Юрчанка, з Югаславіі атрыманы 1552 скрынкі, хаця па дакументах адпраўлены 2663 скрынкі.

Разыходжанняў і накладак шмат. Толькі гэтыя недакладнасці ўжо, відавочна, не мелі істотнага значэння, бо і гэтую дапамогу Юрчанка адпраўляе ў Мінск на рэалізацыю ТАА «Овраг». І тут зноў жа нічога незразумела, бо на выкарыстанне грузу мытня дала дазвол толькі праз месяц, 5 мая 1997 года. За гэтыя кандытарскія вырабы коштам больш за 274 млн. рублёў ТАА «Овраг» пералічыла Баранавіцкаму Чырвонаму Крыжу толькі 25 млн. рублёў.

Дзейнасцю Л. Юрчанка, дакладней арганізацыяй, якую яна ўзначальвала, зацікавілася рэгіянальнае ўпраўленне Дзяржкантролю. Пра блізкую праверку даведалася і Людміла Цімафееўна і пачала ліхаманкава шукаць выйсце. Складаюцца спісы людзей, якім нібыта раздалі 2850 фасаваных пакетаў. Вага аднаго такога пакета павінна была быць 10,5 кг, а калі некаторыя, у адпаведнасці са спісам, атрымлівалі 2 пакеты цукерак і 2 пакеты пячэння, то вага дапамогі дасягала 15 кг. Так было на паперы.

А вось праверка ўстанавіла, што спісы фіктыўныя. У іх фігуруе многа адных і тых жа прозвішчаў і адрасоў, а былі і мёртвыя душы. Людзі даўно памерлі, але, як вынікае, ад ласункаў не адмовіліся. А хто і атрымаў замежныя падарункі, то не 15 кг, а толькі па шакаладцы ды па пачку пячэння.

Акрамя гэтых спісаў Л. Юрчанка прадставіла ў Дзяржкантроль падложнае пісьмо і распараджэнне старшыні Цэнтральнага камітэта Чырвонага Крыжа Рэспублікі Беларусь А. Раманоўскага, згодна з якім адна аўтамашына з гуманітарным грузам быццам бы была адпраўлена ў адрас ЦК Чырвонага Крыжа ў Мінск.

Вынікі праверкі накіроўваюцца ў гарадскі аддзел па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, але там пісьмо праляжала месяц і вярнулася назад у Дзяржкантроль. Міліцыя спаслалася на тое, што ў пісьме не ўказаны памеры матэрыяльнай шкоды, у чым сутнасць злоўжыванняў і г. д.

Начальнік РУ КДК К. Наскова піша пісьмо на імя старшыні гарвыканкама, пракурора горада і начальніка міліцыі і паведамляе аб фармальных адносінах да справы з боку міліцыі.

Толькі пасля гэтага ўзбуджаецца крымінальная справа і Л. Юрчанка арыштоўваюць.

Следства зафіксавала, што матэрыяльная шкода, нанесеная старшынёй Баранавіцкага Чырвонага Крыжа, дасягнула 1 млрд. рублёў. Але пацярпела тут галоўным чынам грамадская арганізацыя, а не дзяржава, што і зрабіла пэўны ўплыў на ход следства. Следчыя, нягледзячы на вялікі аб'ём зробленага, усё ж не могуць сказаць, што яны правялі расследаванне ад А да Я.

Што датычылася Л. Юрчанка, то з ёю ўсё нібыта было ясна: яна з'яўлялася звяном у ланцугу махінатараў.

Следству не ўдалося ўстанавіць, хто вывозіў груз у Мінск, дзе ён збываўся, які яго сапраўдны кошт і па якой цане вырабы прадаваліся, і г. д.

Усе карані гэтай справы цягнуцца ў Мінск і там губляюцца. Фірмы «Чатыры сезоны», «Ліквід-Койл» і «Овраг» сапраўды зарэгістраваныя ў Мінску, але хто імі кіруе, а тым больш, хто хаваецца за іх шыльдамі, чамусьці ўстанавіць не ўдалося. Напрыклад, жыхар Мінска В. Салаўёў на следстве паказаў, што да заснавання ТАА «Ліквід-Койл» ён ніякіх адносінаў не мае. Па яго словах выходзіць, што ён аднойчы згубіў пашпарт і вось хтосьці пашпарт Салаўёва знайшоў і па ім зарэгістраваў фірму.

У следчых была накладная № 19 ад 17 снежня 1996 года, па якой Юрчанка адпусціла ТАА «Ліквід-Койл» цукерак на 651 млн. рублёў. І зроблена гэта было праз В. Салаўёва. Але той усё адмаўляў, і, сапраўды, экспертыза выявіла, што на накладной не яго подпіс.

Аналагічныя сітуацыі і з астатнімі фірмамі. І. Цішчанкоў сумесна з Ю. Бяляковай заснавалі ТАА «Чатыры сезоны». Але ніякай дзейнасцю не займаліся і ніякіх дагавораў не падпісвалі. Затым па аб'яве ў газеце знайшлі грамадзяніна Ігара, якому і перадалі фірму. Следства знайшло І. Вяршыніна, але ўсе подпісы на дакументах аказаліся не яго. Экспертыза пацвердзіла гэта.

Людзі, якія мелі афіцыйнае дачыненне да вядомых нам мінскіх фірмаў, мелі большае падабенства да бамжоў і п'яніц, чым да кіраўнікоў фірмаў.

У мяне чамусьці склалася ўражанне, што за ўсімі ТАА, якім адпраўляла груз Л. Юрчанка, стаіць адзін гаспадар, які і застаўся ў цяні.

А тое, што фірмы не займаліся камерцыйнай дзейнасцю, таксама падман. Фірмы мелі ў банках свае рахункі, і грошы па іх праходзілі. Успомнім, што ў пісьме Ф. Жак прасіў пералічыць фірме «Жаквот» 4200 долараў, і іх «Ліквід-Койл» пералічыла. Зрабілі гэта і за наступны груз.

Так што тут чыста дзелавыя адносіны.

Але чаму так вольна адчуваюць сябе ўсе гэтыя фіктыўныя фірмы, якія «нічым не займаюцца», а фінансамі варочаюць? Нам здаецца, што тут шырокае поле для адпаведных органаў.

І французскія махінатары не ўступаюць беларускім.

Як было сказана ў самым пачатку нашай размовы, больш як 13 тон кандытарскіх вырабаў французы ацанілі ўсяго ў 59 млн. рублёў, і за аказаную паслугу фірма «Жакот» запрасіла 4200 долараў, а гэта больш чым у два разы перавышае кошт усяго грузу. Акрамя гэтага, яшчэ ТАА «Ліквід-Койл» пералічыла Чырвонаму Крыжу 21 млн. Няма ніякай логікі, бо выходзіць, што ў выніку гэтай аперацыі ўсе прайгралі.

Вядома ж, гэта не так, выйгралі ўсе, акрамя бедных і нямоглых. Ды пэўныя страты панесла дзяржава. Груз прайшоў як гуманітарная дапамога і з яго на мытні не ўзялі падатак.

І калі французы ацанілі свой груз у 59 млн., то Юрчанка, адпаведна накладной № 19 ад 17.12.1996 г., адпусціла яго ТАА «Ліквід-Койл» па рэальнаму кошту — за 651 млн. руб., хаця і гэтая сума можа быць таксама заніжана.

Людміла Юрчанка як кіраўнік дабрачыннай арганізацыі адыграла ў гэтых махінацыях далёка не апошнюю ролю. І чуць сёння ў яе бок нейкія спачуванні, як нават пацярпелай, смешна.

Хаця следства, а затым і суд сканцэнтравалі найбольшую ўвагу на асобе Юрчанка, яна адчувала сябе даволі спакойна і вінаватай сябе не прызнала. Напачатку ёй былі прад'яўлены абвінавачанні адразу па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, і Юрчанка пагражала турма на многія гады, але ўсё для былога кіраўніка Баранавіцкага Чырвонага Крыжа закончылася даволі добра.

Суд улічыў, што Юрчанка раней не была судзімай, прыняў пад увагу станоўчую характарыстыку, выключыў, што яна нанесла шкоду дзяржаве, і палічыў, што злачынства не адносіцца да ліку цяжкіх. У выніку Людмілу Цімафееўну асудзілі па артыкулу 23-1 КК РБ, а гэта 3 гады ўмоўна з работай на будоўлях народнай гаспадаркі.

Некаторую маёмасць у Людмілы Цімафееўны канфіскавалі. На карысць пацярпелых аддалі тэлевізар «Sony», відэамагнітафон «Sony», відэакамеру «Sony» і г. д. Але з Юрчанка жыў сын, так што гэтая апаратура праз суд можа вярнуцца на сваё месца.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# ПРЫГОДЫ АДНАГО ЧЭХА І ШАСЦІДЗЕСЯЦІ «ГРУЗІНАЎ» У БЕЛАРУСІ

**Адразу агаворымся: да гэтай сітуацыі прадстаўнікі паважанай каўказскай нацыянальнасці ніякіх адносінаў не маюць. А вось чэх быў. Зрэшты, чаму ж «быў»? Наш галоўны герой жывы і здаровы і дагэтуль, праўда, планаў і амбіцый пасля падзей, пра якія мы вам раскажам, у яго стала нашмат менш.**

**Калі Ян Гаўранек (назавём яго так) упершыню трапіў у нашу рэспубліку, у яго спыталі, чым ён тут мае намер займацца. На што грамадзянін Чэхіі не вагаючыся адказаў: «Разводзіць грузінаў!», маючы на ўвазе грызуноў — выявіліся некаторыя хібы ў веданні рускай мовы.**

**Натхніўшыся ідэямі новага мыслення, усеагульнай адкрытасці і паверыўшы ў незваротнасць перамен, якія адбыліся ва Усходняй Еўропе, Ян, ацаніўшы поглядам бізнесмена вядомую частку зямлі, што складае 1/6 сушы, зразумеў, што бізнес свой рабіць трэба менавіта тут, на няходжанай і няезджанай тэрыторыі. Прычым такая спецыфічная справа, як у яго — развядузенне шыншыл, — абяцала добрую акупнасць на постсавецкай прасторы, бо ўсе ведаюць пра любоў рускіх і іншых жыхароў гэтай тэрыторыі да добрай пушніны.**

Шыншылы. Клас — млекакормячыя, атрад — грызуны. Звярок знешне нагадвае нашу вавёрку, але буйнейшы па памерах. Жыве на амерыканскім кантыненце ў раёнах Анд і Кардыльер, апошнім часам стаў назвычай рэдкім. Яго футра ацэньваецца як самая каштоўная сярод пушніны наогул, нават даражэй, чым собаль.

Праблемы пачаліся адразу ж. Яшчэ на польскай тэрыторыі. Магчыма, чытач памятае, што ў сувязі з нейкімі мытнымі нюансамі на мяжы Польшчы і Беларусі каля двух гадоў таму пару разоў праходзілі стыхійныя забастоўкі вадзіцеляў велікагрузных камеонаў. Якраз у адзін з гэтых такіх «добрых» перыядаў і прыспічыла нашаму Яну везці сваіх жывёл. Камеоны, якія стаяць у два рады па ўсёй трасе на 40 кіламетраў у глыб польскай тэрыторыі, перашкода, я вам скажу, больш чым проста значная. У такіх умовах нават танкавая армія ўвязла б не менш чым на пару сутак. Ян не затрымаўся. Усе вадзіцелі шматгрузных фураў без нараканняў пасоўвалі свае машыны, даючы праехаць адчайнаму чэху. Палякам, немцам, рускім, славакам, аўстрыйцам — усім было зразумела, што чалавек вязе не ролікавыя канькі, не пральныя машыны і нават не гарэлку. У машыне, вельмі цесных клетках, прызначаных толькі для перавозкі, едуць кволыя звяркі, якія даўно хочуць адпачыць і нармальна паесці, і «да фені» ім усе нашы чалавечыя праблемы, у тым ліку і мытныя канфлікты.

Увогуле, Ян са сваімі звяркамі праехаў — на вялікае здзіўленне як польскіх, так і беларускіх мытнікаў.

Усё. «Лірыка» на гэтым канчаецца. Далей ідзе адна толькі бухгалтэрыя, юрыспрудэнцыя, а найбольш — логіка, у нюансы якіх мы і прапаноўваем унікнуць нашым чытачам.

А справа была такая. Зняўшы адпаведнае памяшканне, Ян размясціў у ім сваіх «асоб каўказскай нацыянальнасці». Прычым гэта памяшканне падбіралася вельмі доўга. У адным было вільготна, у другім — брудна, трэцяе не ацяплялася і гэтак далей. Любы беларускі бізнесмен зразумее, чаго каштавала зняць падобнае памяшканне, якое задаволіла б не толькі звяркоў, але і іх гаспадара. Пратрымаўшы свой звярынец аж цэлы год, наш герой зразумеў, што справу рабіць можна: звяркі прыжыліся, акліматызаваліся і нават сталі пацюху размнажацца на новым месцы.

Далей з заявы гаспадара шыншыл у Дзяржаўны мытны камітэт: «...Я пераканаўся ў тым, што паўднёваамерыканскія шыншылы могуць прыстасоўвацца да кліматычных умоў Беларусі і даваць патомства... У сувязі з гэтым узнікла неабходнасць працягнуць на нявызначаны час тэрмін знаходжання на мытнай тэрыторыі РБ увезеных звяркоў і тэхнічных прыстасаванняў для іх утрымання...» З чым Ян і звярнуўся на Мінскую рэгіянальную мытню. Мытня не працівілася, але прапанавала заплаціць падатак на дабаўленую вартасць і мытную пошліну па ўвезеных таварах у сувязі з тым, што льгота на адкрытае Янам замежнае прадпрыемства не распаўсюджваецца з-за палажэння п. 2.2 Дэкрэта Прэзідэнта РБ ад 10.03.97 № 6, бо ўвезеныя тавары не маюць дачынення да асноўных вытворчых фондаў.

Аднак такая пазіцыя Мінскай рэгіянальнай мытні больш чым дзіўная, калі зыходзіць з літары і духу беларускіх законаў, якія ўсяляк спрыяюць замежным інвестыцыям. Так, на момант рэгістрацыі замежнага прадпрыемства, пра якое ідзе гаворка, і на момант увозу шыншыл як «неграшовага ўкладу» ў статутны фонд прадпрыемства ў РБ дзейнічала прававая норма аб тым, што ўсе тавары, якія ўвозяцца на тэрыторыю дзяржавы ў якасці ўкладу ў статутны фонд прадпрыемства з замежнымі інвестыцыямі (акрамя алкагольных і тытунёвых вырабаў, піва, тытуню, піратэхнічных прыстасаванняў і наркатычных сродкаў), вызваляюцца ад падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў (п. 1.2.2 Указа Прэзідэнта РБ ад 25 сакавіка 1996 г. № 120). У дадатак да вышэйсказанага можна таксама прывесці артыкул 31 Закона аб замежных інвестыцыях: «...маёмасць, сыравіна і матэрыялы, якія ўвозяцца замежнымі ўдзельнікамі для фарміравання статутнага фонду прадпрыемства з замежнымі інвестыцыямі, вызваляюцца ад уплаты мытных пошлін і не абкладаюцца падаткам на імпарт». «Але гэта было даўно, у наш неспакойны час заканадаўчыя акты цалкам могуць памяняцца», — скажа ўніклівы чытач. Але і на гэта сцвярджэнне знойдзецца цытата, якую варта было б вылучыць курсівам: «...У выпадку, калі наступнае заканадаўства РБ пагаршае ўмовы для інвестара, то да замежных інвестыцый на працягу пяці гадоў прымяняецца заканадаўства, якое дзейнічала на дзень рэгістрацыі прадпрыемства з замежнымі інвестыцыямі» (Закон аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі РБ артыкул 34). Як бачыце, наш герой не патрабуе для сябе і свайго прадпрыемства якіхсьці асаблівых ільгот ці рэжыму найбольшага спрыяння. Гэтыя льготы ўжо прадастаўлены яму законам на 5 гадоў з дня рэгістрацыі фірмы — гэта значыць да 12 студзеня 2000 года. Засталося толькі ўмудрыцца іх выкарыстаць.



Здавалася б, усё зразумела, дзве арганізацыі крыху не зразумелі адна адну, у справу ўмяшаліся юрысты і, пералапаціўшы «воз і маленькую цялежку» заканадаўчых актаў, разабраліся ўсё ж, на чыім баку ісціна. Але не, простым цытаваннем дакументаў мытню не праб'еш. Спатрэбіўся суд, не, не крымінальны, — гаспадарчы. Ён, як і належыць, адбыўся ў прызначаны час, і наш чэх разам з усімі сваімі звяркамі, як падказвае логіка, яго выйграў. Але канчаткова ісціна пакуль не перамагла. Справа ў тым, што мытня, не дачакаўшыся вынікаў разгляду спрэчкі, выставіла на інкаса плацежныя патрабаванні, у адпаведнасці з якімі банк у бясспрэчным парадку спісвае з рахункаў замежнага прадпрыемства грашовыя сродкі, прызначаныя для закупкі корму.

Увогуле, пакуль беларускія чыноўнікі ламаюць галовы над тым, як растлумачыць беларускія ж заканадаўчыя акты ў прымяненні да аднаго асобна ўзятага чэха і яго шыншыл, «асобна ўзяты чэх» ходзіць па знаёмых, пазычаючы ў найбольш згаворлівых авёс, ячмень і моркву. Сітуацыя была б цярпімай, калі б гаворка ішла аб ролікавых каньках, пральных машынах ці ўсё аб той жа гарэлцы. Але тут — жывёлы, якія штодня просяць есці.

— Уяўляеш, якая сітуацыя, — тлумачыў Ян у час нашай апошняй сустрэчы, — пракарміць шыншыл пры рахунку, які не працуе, практычна немагчыма, вывезці назад у Чэхію — таксама, па тых жа прычынах. Забіць іх на шкуркі — варварства, сярод іх ёсць і цяжарныя самкі. Прадаць — наўрад ці, бо дарага (да ведама: па міжнародных цэнах адна шыншыла каштуе ад 180 да 200 долараў). Засталося адно — выпусціць іх куды-небудзь у лес...

**Арцём ХАНІН.**

**Не будзем вымяраць гісторыю фестывалю колькасцю удзельнікаў і песень. Лепей давайце прыгледзімся да людзей, якія па-рознаму здзівілі публіку за тры дні.**



*«МАЛАДЗЕЧНА—98»*

# «ПЕРСАНАЛЬНЫ» ПОГЛЯД

### Самы арганізацыйна здольны

Хто ведае, ці вярнуўся б фестываль Беларускай песні і паэзіі на радзіму, каб не сын старшыні Маладзечанскага гарвыканкама. Трэба нагадаць, што ў 1995 годзе фестываль прайшоў у канцэртнай зале «Мінск», і гэта было падобна на яго высылку з роднага горада. Тым не менш, маладзечанскія ўлады былі запрошаны на канцэрты. Але замест новага мэра горада Станіслава Татарыновіча ў Мінск прыехаў яго сын. Паглядзеў, паслухаў і вярнуўся дадому расчараваны: маўляў, што гэта за фестываль такі, калі ўсе сядзяць спакойненька ў зале? Бацька задумаўся. У 96-м фестываль вярнуўся ў Маладзечна. Тады было прынята рашэнне праводзіць яго раз у два гады.


Мінскевіч чытае Міцкевіча.

### Самы шчодры

Героем паэтычных чытанняў, якія прайшлі ў гарадскім парку культуры, стаў Леанід Дранько-Майсюк. Ён проста адчуў, што трэба чытаць і для каго. Для дзяцей гучалі яго вершы пра галоднага ваўка і пра бульбу — сімвал беларускай цывілізацыі. А каб дакладна забяспечыць увагу «сваіх» слухачоў, паэт паабяцаў частаваць іх цукеркамі. Дзеці слухалі вершы з асаблівым пачуццём, а калі важнае мерапрыемства скончылася, хуценька абступілі Леаніда з усіх бакоў. Абяцанне прыйшлося выконваць. І то праўда — публіку трэба песціць не толькі ў пераносным, але часамі ў прамым сэнсе.

### Самы знакаміты

Сяржук Мінскевіч быў самым маладым удзельнікам паэтычных чытанняў. Але гэта яго ніколькі не бянтэжыла. І, падобна, не паўплывала на рашучасць наблізіцца да прызнаных аўтарытэтаў. Выйшаўшы на сцэну, Сяржук з гонарам сказаў: «Як вядома, гэты год абвешчаны годам Міцкевіча...» І каб даказаць, што носіць падобнае прозвішча нездарма, ён прачытаў свае пераклады з твораў Адама Міцкевіча, знакамітага паэта, які нарадзіўся ў Беларусі.

### Самыя унікальныя

Сёлета першы канцэрт быў аддадзены пераможцам фестывалю дзіцячай эстраднай песні. Ён найлепшым чынам пацвердзіў, што дзіцячае мастацтва унікальнае, таму што трэба ўлавіць імгненне яго праявы. Дзіцячае мастацтва, на жаль, узроставая «хвароба». Прайшло толькі тры месяцы з таго моманту, як малыя спявалі з аркестрам у Белдзяржфілармоніі, а ў некоторых з іх ужо пачаў ламацца голас.

### Самыя ўпартыя

Невядома, якімі меркаваннямі кіравалася служба аховы фестывалю. Калі ішоў першы канцэрт, хлопцы з мінскага АМОНа упарта трымалі абарону, не пускаючы нікога на лаўкі. Наўрад ці маленькія выканаўцы ехалі з розных мясцін у Маладзечна для таго, каб спяваць пры пустой «зале», калі так можна назваць прыгатаваныя «сідзячыя» месцы. Ды і Дзяржаўны канцэртны аркестр не прывык абыходзіцца без публікі, і яго кіраўнік Міхаіл Фінберг у неўразуменні нешта крычаў са сцэны «распарадчыкам балю». Калі хто праходзіў і садзіўся бліжэй да сцэны, вартавыя імгнення выпраўлялі становішча фразамі тыпу: «Усталі і пайшлі...» Людзі, якія хацелі паслухаць канцэрт, вымушаны былі стаяць далёка за загародкай і толькі перад заканчэннем атрымалі дазвол заняць месцы.


Аляксандр Ціхановіч: абы быў голас.

### Самыя загартаваныя

Самымі вытрыманымі людзьмі за тры фестывальныя дні паказалі сябе музыканты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра. Яны сядзелі на адкрытай сцэне пры даволі нізкай для лета тэмпературы паветра па некалькі гадзін — на рэпетыцыях і канцэртах. Ігралі, ігралі, ігралі... Адпрацаваўшы, аркестр ноччу яшчэ ехаў у Мінск. І усё — дзеля песень. Ды для такіх людзей можна наступны раз і надвор'е заказаць!

### Самы перспектыўны

Рэзка зменіцца лёс аднаго канкурсанта — Віктара Пшанічнага з Магілёўшчыны. Ён атрымаў прапанову папоўніць шэрагі салістаў канцэртнага аркестра. У першае імгненне, калі Віктар выйшаў на сцэну, падалося, што ён нечым падобны на Мікалая Скорыкава. Але замест чаканага барытона ён заспяваў «Чырвоную ружу» Уладзіміра Мулявіна, да таго ж з інтанацыяй у голасе, вельмі падобнай да мулявінскай. Такія падабенствы проста абавязваюць навучыцца быць самім сабой, раўняючыся на «класікаў».

### Самы мужны

У дзень закрыцця ў Маладзечне з'явілася Ядвіга Паплаўская. Аляксандр Ціхановіч ледзь паспяваў за ёю, абапіраючыся на мыліцы. Так атрымалася, што спявак перад фестывалем пашкодзіў нагу. Не адмаўляцца ж з-за гэтага ад выступлення. Выйсце было знойдзена: спецыяльна для Ціхановіча на сцэну вынеслі крэсла. Уражаныя слухачы шчыра дзякавалі сваім любімцам.

### Самая апальная

Як вядома, Іна Афанасьева аднойчы «разышлася» з Дзяржаўным канцэртным аркестрам, дзе пачынала эстрадную кар'еру. І вось ізноў давялося выступіць разам — на гэты раз у якасці юбіляркі: Афанасьева ўжо 10 гадоў на беларускай эстрадзе. На фестываль яе запрасілі, але ці можна лічыць гэта прымірэннем паміж спявачкай і кіраўніком аркестра? Фінберг на гэтае пытанне не даў адказу.

### Самыя дарагія

Самы вялікі ганарар сярод «недзяржаўных» калектываў атрымалі ў Маладзечне ўдзельнікі студыі «Палац». Праўда, акрамя песень у агульным канцэрце, у іх была яшчэ асобная сустрэча з публікай. Тым, хто не бачыў, ёсць аб чым шкадаваць. Між іншым, нават мастацкі кіраўнік фестывалю пагадзіўся, што нездарма музыканты атрымаюць больш за іншых: «Яны прафесіяналы».

**Кацярына МІХАЛЕНКА**


Фінберг — Афанасьева: хто каму абавязаны?

# У ГОНАР БАЦЬКІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Вялікую мемарыяльную працу праводзіць клуб «Спадчына», добра вядомы не толькі ў беларускай сталіцы, але і па ўсёй краіне, нават у беларускім замежжы.**



Адзін з апошніх праектаў гэтай грамадска-асветніцкай арганізацыі — помнік Адаму Ягоравічу Багдановічу, які толькі што ўстаноўлены і адкрыты ў гарадскім пасёлку Халопенічы Крупскага раёна. Ініцыятар праекта, распарадчык усіх работ — Анатоль Белы. Старшыня аргкамітэта па ўсталяванню помніка — дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Гніламёдаў. Аўтарам жа помніка з'яўляецца лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь скульптар Уладзімір Лятун.

Дарэчы, паменшанага памеру бюст бацькі Максіма Багдановіча (таксама работы Уладзіміра Летуна) быў уручаны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам падчас яго візіту ў Яраслаўль мясцоваму музею славутага нашага суайчынніка.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

НА ЗДЫМКУ: помнік **Адаму Ягоравічу Багдановічу** ў Халопенічах.

# СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВІЦЕБСКУ — З ГРАШЫМА

**На рахункі арганізатараў фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» пералічана больш як 8 мільёнаў рублёў (расійскіх) з бюджэту Саюза Беларусі і Расіі.**

«Славянскі базар у Віцебску», паводле слоў першага намесніка міністра культуры Расіі Уладзіміра Еўсцігнеева, не выпадкова носіць статус міжнароднага: у ім прыме ўдзел больш як 30 дзяржаў.

Цяпер практычна завершана работа па падрыхтоўцы фестывалю, які пройдзе з 20 па 29 ліпеня, узгоднены план мерапрыемстваў. Прадугледжана правядзенне Дзён Расіі, Беларусі і Украіны, святаў фальклору, харавой музыкі, балета, моды, фестывальнага кінапаказу... У праграме таксама выступленні буйнейшых зорак эстраднага мастацтва. З расійскага боку, напрыклад, удзел у фестывалі прымуць Ала Пугачова, Валерый Лявонцьеў, Філіп Кіркораў, Надзея Бабкіна, Нона Мардзюкова, Ігар Крутой, Алег Газманаў, Ірына Алеграва і іншыя не менш славутыя госці.

Што датычыць Дня Расіі, то, як адзначыў Уладзімір Еўсцігнееў, у яго праграме — правядзенне гала-канцэрта майстроў мастацтваў, да ўдзелу ў якім акрамя зорак эстрады прыцягваецца таксама шэраг народных калектываў з расійскіх рэгіёнаў. Такіх, напрыклад, як Башкірскі дзяржаўны ансамбль імя Гаскарава, Дзяржаўны калмыцкі ансамбль песні і танца «Цюльпан», Дзяржаўны ансамбль «Эргірон», Дзяржаўны акадэмічны ансамбль народнага танца «Алан», Дзяржаўны ансамбль «Руская песня», Дзяржаўны ансамбль казацкай песні «Крыніца», Дзяржаўны акадэмічны разанскі рускі народны хор, Уладзімірскі камерны хор «Распеў» і інш.

У рамках фестывалю запланавана правядзенне Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-98» і Міжнароднага конкурсу дзіцячых канцэртных праграм «Зоркі XXI стагоддзя».

**Аляксандр САПСАЙ,**
**прэс-служба Пасольства Беларусі ў РФ.**

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# У САДУ ГУЛЯЛА

**Беларуская народная песня «У саду гуляла» стала неад'емнай спадарожніцай спеўнага калектыву «Купалінка» Белдзяржфілармоніі. Дзе б ні выступаў гэты ансамбль, якім кіруе заслужаная артыстка Беларусі Алена Цялькова, ён заўсёды ўключае ў рэпертуар песню «У саду гуляла». Артысты беражліва прытрымліваюцца паляшуцкага вымаўлення, імкнуцца і спевам, і рухам на сцэне перадаць няўрымслівы характар палешукоў.**

**Ансамбль «Купалінка» паспрыяў шырокаму бытаванню гэтага фальклорнага твора ў сучасных умовах. Існуюць варыянты песні, былі спробы літаратурнай апрацоўкі яе тэксту. Аднак дыялектная мова прыдае песні своеасаблівую прыгажосць, непаўторную прывабнасць.**

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*У саду гуляла, цветы збірала**
*Кого любыла — прычаровала.*

*Прычаровала сэрца і душу:*
*Тэпэр до тэбэ ходыты мушу.*

*Ходыты мушу, любыты буду,*
*Скажу по праўдзі:*
*«Браты нэ буду».*

*Девчіно гарна,*
*дзевчіно пышна.*
*Чого ж до мэнэ*
*ўчора не выйшла?*

*А я не выйду,*
*з тобой не стану,*
*Прышлю я сэстру, такую саму.*

*А я з сэстрою усю ніч*
*простою:*
*Нэ та размова, як і з тобою.*

*Нэ та размова, не тые слова,*
*Нэ біло лычко, нэ чэрноброва.*

*У саду гуляла, цветы збірала,*
*Каго любыла — прычаровала.*

*Першы радок і ўвесь куплет паўтараюцца двойчы.

*Віншуем* ***Ґенадзя Антонавіча ЦЯРЭШКУ,*** *слуцкага «Кулібіна» заслужанага рацыяналізатара і вынаходніка Рэспублікі Беларусь, які ўкараніў толькі ў 1997 г. звыш шасцідзесяці навінак і атрымаў 9 патэнтаў на вынаходніцтва, з Днём вынаходніка і рацыяналізатара. Жадаем здароўя і невычэрпнай энергіі ў рацыяналізатарскай справе.*

**Кандрашовы.**

*ВЫСТАВА*

# ГОЯ

**У нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава гравюр дона Франціска Гоі і Лусьентэс.**

Гэта яму належыць стаўшая крылатай фраза: «Сон розуму нараджае пачвар». Прынамсі так называецца адна гравюра з серыі «Капрычыос». Менавіта 80 афортаў, якія складаюць гэтую серыю, прадстаўлены беларускай публіцы.

Як і калі яна стваралася? У той час Іспаніяй кіраваў Карл IV, у многім яго палітыкай быў выкліканы крызіс, які абрушыўся на краіну. З 1793 года Франціска Гоя ператварыўся ў выгнанніка, зачыніўся ў майстэрні. Тады і ствараліся дзве яго вядомыя серыі. А ў 1799 годзе «Капрычыос» былі паказаны публіцы.

Тэмы твораў вельмі розныя — варажба, рэпрэсіі інквізіцыі, чалавечае глупства, свет каралёў. Аўтар быў перакананы, што асудзіць чалавечыя памылкі і заганы павінна мастацтва. Васемнаццатае стагоддзе называецца векам Асветы. А гравюра ператварылася у сродак данясення пэўных ідэй. Яшчэ у 1792 годзе Гоя выказаў думку, што ў хуткім часе мастацтвам будзе лічыцца тое, што зараз выступае як маніфест. Майстра не памыліўся, бо яго работы паўплывалі на творчасць мастакоў ва ўсім свеце.

Можна захапляцца мастацкай манерай Гоі, можна мысленна супастаўляць яго сюжэты з цяперашнім жыццём. Побач з кожнай работай на выставе змешчаны каментарыі самога мастака. Думкі непадуладныя часу: «Такое жыццё. Людзі здзекуюцца адзін над адным і катуюць адзін другога, быццам інсцэніруюць бой быкоў. Той, хто ўчора быў на месцы быка, сёння — тарэра. Фартуна спраўляе фіесту і размяркоўвае ролі па свайму капрызу».

Калекцыя, што прыехала ў Мінск, з'яўляецца ўласнасцю банка «Са ностра».

Самі пласціны знаходзяцца ў Нацыянальнай каралеўскай акадэміі. А менавіта гэтыя адбіткі былі зроблены ў Нацыянальнай гравіравальнай майстэрні ў 1937 годзе, на новым тэхнічным узроўні. Рашэнне раздрукаваць калекцыю было прынята падчас бамбардзіровак Мадрыда фашысцкімі войскамі, рэспубліцы тэрмінова патрэбны былі грошы на вайну. Гэта трэці выпуск «Капрычыос», спецыялісты лічаць яго самым лепшым. І болей адбіткі рабіцца не будуць.



Адметна, што раней гэтая калекцыя не дэманстравалася за межамі Іспаніі. І ні ў адной краіне былога СССР няма твораў Гоі. Беларусі сапраўды пашчасціла. Але мастацтва заўсёды ведае, калі і куды прыходзіць. Таму трэба падзякаваць мэрыі горада Пальмэ — ведаючы пра нашы эканамічныя праблемы, іспанцы ўклалі шмат сіл і сродкаў, каб выстава адбылася.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

**Былы савецкі разведчык Фекліcaў сцвярджае, што муж і жонка Розенбергі, якія былі пакараны 45 гадоў таму, сапраўды працавалі на Маскву**

**«Яны працавалі на нас. Але я не магу сказаць, што звесткі, якія яны перадавалі, адыгралі рашаючую ролю.**

Для нас больш важнай была іхняя ідэйная перакананасць у неабходнасці дапамагчы СССР», — заявіў палкоўнік Службы знешняй разведкі (СЗР) у адстаўцы ў апублікаваным у пятніцу інтэрв'ю «Известиям».

Муж і жонка Розенбергі селі на электрычны стул па абвінавачванню ў перадачы Савецкаму Саюзу сакрэту атамнай бомбы. Між тым яны самі не давалі прызнавальных паказанняў і, як адзначае расійская газета, «па вялікаму рахунку, амерыканцы да гэтага часу не могуць быць упэўненымі, што пакаралі менавіта вінаватых людзей».

**Інтэрфакс.**

## Расія стаіць на парозе фінансавага краху

Гэта навіна ўжо афіцыйная: Крэмль адмовіўся ад аптымістычных заяў, аб'яўляе аб драконаўскім скарачэнні расходаў і просіць аб новых пазыках на Захадзе.

Па іроніі лёсу, некалькі месяцаў таму Барыс Ельцын абвяшчаў, што 1998 год стане годам росту і што Расія больш не будзе пазычаць грошы за мяжой. Але з азіяцкім крызісам, падзеннем цэн на нафту і асабліва з крахам расійскай эканомікі мэта новага ўрада стала куды менш амбіцыйнай — выратаваць краіну ад банкруцтва.

**«Стампа»** *(Італія).*

# Іван Грозны не быў такім крыважэрным, як яго калегі па прастолу

***Пісьменнік Вадзім Кожынаў належыць да «почвенического» напрамку ў сучаснай рускай літаратуры. Ён аўтар шматлікіх кніг аб гісторыі Расіі і рускай культуры***

**— Вадзім Валяр'янавіч, спрэчкі аб тым, што стала прычынай гістарычных няшчасцяў Расіі, відаць, могуць завесці нас у густыя нетры. Вы можаце ўнесці яснасць?**

— Выстройваючы будучыню Расіі, мы часта ўпускаем адну неабходную дамінанту, а менавіта — дзяржаву. Справа ў тым, што ў Расіі дзяржава заўсёды адыгрывала выключную ролю. Прычым, гэта тлумачыцца менавіта характарам народа. Калі гавораць аб тым, што ў Расіі заўсёды была дэспатычная ўлада, то атрымліваецца, што ўлада была нейкая навязаная, так бы мовіць, іманентна дэспатычная, і проста «не пашанцавала» рускаму народу, што на чале аказваліся нейкія жудасныя гвалтаўнікі і тыраны.

**— А на самай справе пашанцавала?**

— Яшчэ Талстой любіў паўтараць, што ў Расіі не свобода, а воля. Любое паслабленне дзяржаўнай улады прыводзіла ў нас да жудасных наступстваў. Балатнікоўшчына, разіншчына, булавіншчына, пугачоўшчына. Далей — махноўшчына, антонаўшчына... Гэта значыць дастаткова было дзяржаўнай уладзе выпусціць лейцы з рук — і адразу ж усё жыццё ўпадала ў хаос.

**— Але хіба гэта выключна руская з'ява?**

— Я працытую словы вельмі разумнага і назіральнага чалавека — Морыса Палеолага. Гэта французскі пасол у Расіі ў 1914—1917 гадах. У сваім дзённіку, за два тыдні да Лютаўскай рэвалюцыі, ён запісвае: «На які ні стань пункт гледжання, рускі ўяўляе заўсёды парадаксальную з'яву празмернай пакорлівасці, спалучанай з вельмі моцным духам абурэння. Мужык вядомы сваёй цярплівасцю і фаталізмам, сваёй дабрадушнасцю і пасіўнасцю. Але вось ён раптам пераходзіць да пратэсту і бунту. І адразу ж яго неўтаймаванасць даводзіць яго да жудасных злачынстваў і жорсткай помсты, да параксізму злачыннасці і дзікасці. Няма такой празмернасці, на якую не былі б здатныя рускі мужчына ці руская жанчына, калі толькі яны вырашылі ўсталяваць сваю «свабодную асобу». Можна адчаяцца ва ўсім. О, як я разумею посах Івана Грознага і дубінку Пятра Вялікага!» І гэта піша ліберал, дэмакрат!

**— А мы хіба на такі непрадузяты погляд не здольныя?**

— У нас вельмі распаўсюджана ацэначнае супастаўленне Расіі і Захаду. Але што добра на Захадзе, можа аказацца ў нас проста процілеглым, і наадварот. У нас заўсёды рашаючую ролю адыгрывала ўсё-такі дзяржава.

**— А роля асобы?**

— Яна заўсёды ў нас вытворнае ад дзяржавы. Менавіта з прычыны надзвычайнай «вольнасці» народа дзяржава павінна адыгрываць ролю больш значную, чым на Захадзе. Важна зразумець гэта, не праклінаць і не ўсхваляць, а зразумець.

У нас неяк прынята паказваць Івана Грознага ў выглядзе такога нечуванага злодзея. Між тым, вазьміце самыя сур'ёзныя гістарычныя даследаванні пра Івана Грознага. З іх вы даведаецеся, што пры ім было пакарана тры, максімум чатыры тысячы чалавек. Між тым, яго сучаснік Карл IX за адну ноч знішчыў тры тысячы гугенотаў. За адну ноч — не за трыццаць гадоў кіравання! А ўвогуле на Захадзе ў той жа перыяд, калі ў нас правіў Іван Грозны, было пакарана, прычым самымі жорсткімі метадамі, аж да спалення жывым, 300—400 тысяч чалавек. Па тым часе гэта гіганцкая лічба, калі ўлічыць, што насельніцтва еўрапейскіх краін было прыкладна ў дзесяць разоў меншае, чым цяпер.

**— І што тады апраўдвае жорсткасць Грознага і яго «калег» па прастолу?**

— Не апраўдвае, а тлумачыць. Адзінае істотнае адрозненне заключаецца ў тым, што гэта было зроблена па закону парламента, а вельмі многія пакаранні, учыненыя пры Іване Грозным, былі вынікам яго асабістага самавольства. Тым не менш, Марына Князева расказвае знаёмым амерыканцам аб жорсткасці Грознага і тыя жахаюцца: «Хіба можна жыць у такой краіне, з такой уладай?» А ў Амерыцы з індзейцамі абыходзіліся ўвогуле без маралізатарстваў. І абсалютная большасць амерыканцаў не войкае, не айкае, не б'е сябе ў грудзі: ах, якія мы былі крыважэрныя.

**— І ўсё ж Іван Грозны застаўся ў рускай гісторыі менавіта гэтым крыважэрным правіцелем. З гістарычнай памяці гэтага не вытравіш.**

— Толькі трэба было б усё ж зразумець, адкуль гэта зыходзіць. Галоўным віноўнікам гэтай змрочнай славы цара быў... сам Іван Грозны. Таму што ў хуткім часе пасля адмены апрычніны ён пакаяўся, напісаў аб сабе як «о смердящем псе, смертоубийце». Ён паслаў гэта ў выглядзе пасланія ў Кірыла-Белазерскі манастыр, і гэта пісьмо разышлося ў вялікай колькасці экзэмпляраў. А калі сам прызнаў — дык што тут гаварыць! Французскім, англійскім і іспанскім правіцелям ніколі б нават і ў галаву не прыйшло што-небудзь падобнае. Наадварот. Рымскі папа іх благаслаўляў на гэта. Пасля Варфаламееўскай ночы ён наладзіў ілюмінацыю ў Рыме і прыслаў пасланне з падзякай каралю за тое, што той расправіўся з ератыкамі-пратэстантамі. У той час як цэлы шэраг нашых царкоўных іерархаў, у тым ліку мітрапаліт Філіп, бязлітасна асуджалі Івана Грознага за насілле. Але самае галоўнае заключаецца ў тым, што дэспатызм Грознага, а потым і іншых правіцеляў тлумачыцца ў многім вось гэтай празмернай вольнасцю народа, якая бярэ пачатак з усёй гісторыі, і перш за ўсё — нават з геаграфіі.

**— На геаграфію цяпер модна спісваць усё — і прыгоннае права, і тэрор, і нашу адсталасць.**

— Спісваць не трэба. А зноў зразумець неабходна. Выдатны рускі філосаф Пётр Чаадаеў пакінуў надзвычай выдатнае меркаванне аб увядзенні прыгоннага права ў Расіі. Быў, як вы, напэўна, ведаеце, адменены так званы Юр'еў дзень. У гэты дзень, калі заканчваліся ўсе сельскагаспадарчыя работы, любы селянін мог пайсці ад свайго пана ў іншае месца. І гэта рабілі сотні тысяч людзей. Не спадабалася штосьці — і яны пераходзілі ў іншае месца. Дык вось, Чаадаеў на гэты конт выдатна напісаў, што Расія да канца XVI стагоддзя была ўжо велізнай краінай, але ў той жа час складалася з — вось далей я цытую літаральна: «з параўнальна нешматлікага насельніцтва, якое бадзяжнічала па прасторы паміж 65-м і 45-м градусамі паўночнай шыраты». Памойму, выдатны вобраз Расіі — у ім умясціліся адлегласць у дзве тысячы вёрст паміж Белым і Азоўскім морамі. «Несумненна тое, — працягвае Чаадаеў, — што трэба было палажыць канец бадзяжніцтву. Такой была падстава адміністрацыйнай меры, што схілялася да ўстанаўлення больш стабільнага парадку». Гэтай мерай, як вядома, мы абавязаны Івану IV, гэтаму гасудару, якога яшчэ нядаўна так няправільна зразумелі нашы гісторыкі, але памяць якога заўсёды была дарагой рускаму народу». Як бачыце, Іван Грозны і прыгоннае права паявіліся не на злой волі.

**— Вадзім Валяр'янавіч, ваш прагноз: манархія мае ў нас шанц адрадзіцца? Як у Іспаніі, напрыклад...**

— Я перакананы, што ў нас гэта будзе абсалютнай фальсіфікацыяй. Цар у нас магчымы толькі як Божы памазаннік. А для гэтага неабходна, каб большасць людзей былі сапраўды веруючымі. Усе мы павінны ўзвысіцца да рэлігіі. 80 гадоў жыцця без веры не маглі перайначыць прыроду рускай душы. Але павярнуць яе зноў да Бога — задача надзвычай цяжкая.

**Ірына ПЕТРАКОВА, уласны карэспандэнт «Звязды» ў Маскве.**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

- **У гэты дзень у 1550 годзе** нарадзіўся кароль Францыі Карл IX, «аматар» Варфаламееўскіх начэй.
- **27 чэрвеня 1838 года** нарадзіўся Пауль Маўзер, малодшы з двух братоў — нямецкіх канструктараў-збройнікаў. Шырокае распаўсюджанне па ўсім свеце атрымалі магазінныя вінтоўкі Маўзераў і аўтаматычныя пісталеты — «сімвалы» Кастрычніцкай рэвалюцыі.
- **27 чэрвеня 1891 года** нарадзіўся Уладзімір Петлякоў, вядомы савецкі авіяканструктар.
- **У гэты дзень у 1929 годзе** ў Нью-Йорку ўпершыню была прадэманстравана сістэма перадачы каляровага тэлебачання.
- **У гэты дзень у 1936 годзе** ЦВК і СНК СССР прынялі пастанову аб забароне абортаў. Рашэнне адменена ў 1955 годзе.
- **27 чэрвеня 1938 года** ў сваёй кватэры па абвінавачанню ва ўдзеле ў антысавецкай тэрарыстычнай трацкісцкай арганізацыі быў арыштаваны вядучы інжынер Ракетнага навукова-даследчага інстытута Сяргей Паўлавіч Каралёў.
- **У гэты дзень у 1941 годзе** нарадзіўся славуты польскі кінарэжысёр Кшыштаф Кесьлеўскі

## І такое бывае...

***Англічане з разуменнем становяцца да аматараў спіртнога. Напэўна таму лонданскі суд не праявіў празмернай жорсткасці да Адама Вейса, маладога цесляра і знатака джыну, які пасля работы добра выпіў з сябрамі і ноччу, пераблытаўшы дом, пачаў ірвацца ў чужую кватэру.***

Жанчына, якая адчыніла яму дзверы, спрасонку прыняла яго за свайго каханка, які таксама любіць добра «паддаць». Яна пусціла Вейса ў ложак і аддалася яму. Толькі раніцай, разгледзеўшы, што пад бокам храпе чужы незнаёмы мужчына, прыгажуня ўзняла шум. Няўдачлівага выпіваку тут жа арыштавалі. У паліцыі Вейс са слязамі на вачах даказваў, што наогул нічога не памятае і вельмі шкадуе, што прычыніў камусьці нязручнасці.

Суд, разгледзеўшы ўсе матэрыялы справы, прыйшоў да высновы, што ў дзеяннях Вейса не было дрэннай задумы, і прыгаварыў яго да штрафу ў 400 фунтаў.

## Неверагодна?

***У японца Акамі Іто, якому неўзабаве споўніцца 108 гадоў, нядаўна нарадзілася 15-е па ліку дзіця.***

Жонцы старычка-баравічка — трыццаць дзевяць. Акамі Іто запэўнівае, што калі ён не зможа больш займацца з жонкай каханнем, то пойдзе ў адзін з манастыроў. «Думаю, што адбудзецца гэта не хутка, — лічыць аптыміст-пенсіянер, — тры разы на тыдзень мы з жонкай па-ранейшаму разам. Хоць гэта ўжо не тры разы на ноч, як было калісьці».

## Цікава

***Купляючы сабе на кухню партатыўны кітайскі тэлевізар, жыхар падмаскоўнага Адзінцова Генадзь У. і падумаць не мог, што прымітыўны апарат дапаможа яму выкрыць жонку ў сямейнай здрадзе.***

Дзесьці праз месяц пасля пакупкі Генадзь круціў настройку тэлевізара, які, як высветлілася, лавіў не толькі тэлепраграмы, але і перадачы радыёстанцый. Нечакана скрозь перашкоды ён пачуў голас сваёй жонкі, якая дамаўлялася з нейкім мужчынам аб любоўным спатканні. Кемлівы муж здагадаўся, што яго палавіна размаўляе з каханкам па радыётэлефоне суседкі, да якой за хвіліну да таго яна адправілася быццам бы па соль. Дачакаўшыся вяртання жонкі, Генадзь прадэманстраваў ёй магчымасці цуда-тэлевізара. Сям'я тут жа распалася.

## Неверагодна

***Вучоныя на працягу двух гадоў біліся над разгадкай феномена двух японскіх гарадоў — Таката і Накатсу, дзе на працягу апошняй чвэрці стагоддзя нараджаюцца адны хлопчыкі.***

Паколькі пол дзіцяці вызначае ДНК бацькі, то аб'ектам даследавання стала ўсё мужчынскае насельніцтва Таката і Накатсу ва ўзросце ад 14 да 65 гадоў. Вучоныя высветлілі, што прычынай унікальнай з'явы стала... цунамі, якое 30 гадоў таму абрынулася на абодва гарады. Стыхійнае бедства не толькі разбурыла жыллё японцаў, знішчыла пасевы і забрала дзесяткі чалавечых жыццяў, але яшчэ занесла з марскіх глыбіняў невядомы навуцы вірус, які змяніў генатып мужчын.

## Ваша здароўе

***Вядома, што ў людзей ва ўзросце старэй за 60 гадоў часта рэзка зніжаецца крывяны ціск пасля яды і пры пераходзе з ляжачага становішча ў стаячае. У такіх выпадках чалавек адчувае слабасць і галавакружэнне.***

Па звестках даследчыкаў, ім можа дапамагчы кафеін, які трэба прымаць як у пілюлях, так і ў выглядзе моцнай кавы і чаю. Аўстралійскія вучоныя, якія правялі эксперыменты, высветлілі, што ўжыванне 5 кубкаў кавы ці моцнага чаю ў дзень прыводзіць да нармалізацыі ціску і адсутнасці яго перападаў. Цікава, што найбольшым эфектам валодае кубачак кавы, выпіты за 30 хвілін да ці пасля яды.

Так што піце спакойна свой моцны чай і ранішнюю каву. Аказваецца, апрача проста прыемнага адчування бадзёрасці, ёсць ад іх яшчэ і карысць.

## Анекдот

*— Значыць, вы прызнаеце, што, узброіўшыся пісталетам з глушыльнікам, напалі на начнога вартаўніка?*

*— Пан суддзя, ён так соладка спаў, што мне шкада было яго будзіць.*

36,6°

## Ірына ЛАПЦЕВА: «Мы недастаткова паважаем сваё здароўе, а значыць і сябе»

### У беларусі найбольш распаўсюджаны хваробы органаў дыхання, а налічваецца ўсяго 160 пульманолагаў

**Словы «жыць» і «дыхаць» можна смела назваць сінонімамі. А пульманалогія — навука менавіта пра органы дыхання. Нядаўна адбыўся ўстаноўчы сход па арганізацыі таварыства ўрачоў гэтай медыцынскай галіны нашай краіны. Узначаліла яго галоўны пульманолаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі Ірына Лапцева.**

*— Ірына Міхайлаўна, наколькі я разумею, стварэнне таварыства — вынік дрэннай сітуацыі ў галіне пульманалогіі, вялікай колькасці хворых?*

— Так. Напрыклад, хворых на хранічны бранхіт у краіне зарэгістравана 128 тысяч; на 100 тысяч жыхароў хворых на пнеўманію — 268 чалавек. Увогуле колькасць зваротаў у паліклінікі, на ФАПы з-за хвароб органаў дыхання летась склала 2 мільёны 200 тысяч. І ў сумнай статыстыцы ўсіх хвароб займае першае месца.

*— Чаму?*

— Шэраг прычын. Мы лечым таксама і астму, адна з прычын яе абвастрэння — у генетычнай схільнасці да рэагавання на раздражняльнікі: загазаванасць, запыленасць у хаце. Галоўная бяда, што мы недастаткова паважаем сваё здароўе, а значыць і сябе. Напрыклад, можна лёгка прызвычаіцца да кашлю і ўспрымаць яго як нармальную з'яву. І толькі калі ён становіцца незвычайным, перашкаджае дыхаць, звяртаюцца да доктара. Але хвароба ўжо запушчаная... Адны школьныя звычкі чаго вартыя! На Захадзе курэнне — прымета дрэннага тону. А ў нас з маленства гэтай заганай бравіруюць.

*— Дарэчы, якая сітуацыя з пульманалагічнымі хваробамі ў іншых краінах?*

— На тэрыторыі СНД практычна аднолькавая. Адрозніваемся ад заходніх суседзяў: Літвы, Польшчы, Чэхіі. Смяротнасць ад таго ж хранічнага бранхіту ў нас недзе ў два разы большая...

*— Вы лечыце хваробу, якая ўжо развілася. А што ж на ФАПах, у паліклініках?*

— Сітуацыя якраз і патрабуе змен на ўзроўні амбулаторна-паліклінічным. Участковы тэрапеўт павінен курыраваць хворага пры лёгкай стадыі. На больш складаных узроўнях — пульманолаг. У краіне нас — 160.

*— Усяго?!*

— Так. У нас мала паліклінік, дзе ёсць спецыялізаваныя кабінеты. Хаця б адзін на рэгіён...

*— І хворыя едуць у навукова-даследчы інстытут пульманалогіі і фтызіятрыі пад Мінск...*

— Справа ў тым, што напачатку хворы звяртаецца да ўчастковага ўрача, якому даводзіцца лячыць у тым ліку і іншыя недамаганні. Пульманалагічная служба там мусіць быць рэарганізавана.

*— Чалавек падлячыўся ў вас. Але ж яму вяртацца назад. Ці можа ён праводзіць далей стацыянарнае лячэнне?*

— Мы стараемся, каб чалавек, пакідаючы бальніцу, атрымаў аптымальныя рэкамендацыі. Хворым на саркаідоз складаем схемы лячэння на месяцы. І ўпэўнены ў іх выкананні, бо чалавек ідзе пад нагляд у процітуберкулёзны дыспансер, дзе работа адладжана на працягу многіх гадоў. На жаль, з астмай і хранічным бранхітам трэба звяртацца ў паліклінікі, дзе, здараецца, належны кантроль адсутнічае.

*— Наколькі разумею, пульманалогія — новая галіна ў айчыннай медыцыне. Мо таму і таварыства крыху запознена ствараецца?*

— Пульманалогія ў асобную галіну выдзелілася на пачатку 90-х. Якраз расла колькасць хворых на астму, бранхіт. Дарэчы, не толькі ў Беларусі — па ўсім свеце. Наша таварыства найперш будзе імкнуцца да арганізацыі належнай работы ў паліклініках.

*— Ці падтрымліваеце кантакты з калегамі з іншых дзяржаў?*

— Безумоўна. Напрыклад, мы маем агульную праграму з Расіяй. Правялі шэраг сумесных мерапрыемстваў. Ужо здымаецца фільм для хворых на астму. Гэта сем занятак з рэкамендацыямі паводзінаў у розных сітуацыях. Будзе ён дэманстравацца і ў нас.

*— А ці выпускае наша прамысловасць якія-небудзь новыя прэпараты?*

— Ідуць апошнія выпрабаванні пікфлаўметра — прыбора для вымярэння дыхання. Па ягоных паказчыках можна своечасова аказаць дапамогу нават малым дзецям. Існуе праграма «Здаровыя лёгкія», якую хацелі б зрабіць дзяржаўнай. Праўда, як самі разумееце, праблема ў фінансаванні.

*— Якія парады вы б далі, каб органы дыхання заўсёды былі здаровымі?*

— Зразумела, у першую чаргу трэба кідаць шкодныя звычкі. Хваробы моцна развіваюцца на фоне зніжанага імунітэту ўсяго арганізма. Ён не можа процістаяць знешнім раздражняльнікам. Таму неабходна займацца лячэбнай фізкультурай, і рэгуляваць рэжым харчавання. Дыхальныя функцыі арганізма зніжаюцца з узростам. Калі не весці здаровы лад жыцця, не рабіць дыхальнай гімнастыкі, не кінуць шкодныя звычкі, будзе ісці больш хуткімі тэмпамі.

**Гутарыў Міхал ТАЛОЧКА.**

СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## Крыжаванка



**Па гарызанталях:** **1**. Беларускі пісьменнік, аўтар раманаў «Крэсы змагаюцца», «Лукішкі», «Сонца за кратамі». **4**. Пазыўныя першай у свеце жанчыны-касманаўта В. Церашковай. **7**. Пешаходная дарожка па баках вуліцы. **10**. Індывідуум, персона. **13**. Беларускі кампазітар, педагог, харавы дырыжор. **20**. Верхняе адзенне. **21**. Сістэма гімнастычных практыкаванняў. **23**. Жывапісны або скульптурны ўзор. **24**. Глыба, гмах. **25**. Выступ на падэшвах спартыўнага абутку. **26**. Вядомая марка збожжаўборачнага камбайна. **27**. Мера зямельнай плошчы ў Вялікабрытаніі. **28**. Тралічная расліна сямейства лілейных, якая шырока выкарыстоўваецца ў лекавых мэтах. **29**. Паслядоўны рад музычных гукаў. **30**. Пералётная птушка. **31**. Спецыяліст з вышэйшай медыцынскай адукацыяй. **32**. Дзяржава, якая мяжуе з Беларуссю. **33**. Каштоўная рыса сямейства ласосевых. **34**. Прадстаўнік буйнога манапалістычнага капіталу. **35**. Рака ў Закаўказзі, прыток Куры. **38**. Доўгая сялянская верхняя вопратка. **41**. Паходная вайсковая сумка. **44**. Размер аплаты працы або паслуг. **52**. Захопнік, заваёўнік. **53**. Аповесць пісьменніка Д. Граніна. **55**. Парода паляўнічых сабак. **58**. Мінерал, празрысты шклопадобны камень. **61**. Тэхналагічная ўстаноўка для атрымання атамнай энергіі. **62**. Агульная работа на марскім судне, караблі. **65**. Чыгуначны вузел на Браншчыне ў Расіі. **66**. Свабода, раздолле. **67**. Створка для закрыцця вокнаў знадворку. **68**. Частка сцябла, кораня расліны. **69**. Славуты казахскі паэт-акын. **70**. Асець. **71**. Вялікая рака ў Еўропе, асноўная частка якой цячэ па Германіі. **72**. Горад у Рэспубліцы Комі. **73**. Даўгахвосты папугай. **75**. Аднасенны плод кедра. **76**. Спартыўная гоначная лодка. **77**. Вайсковае падраздзяленне. **79**. Бясхвостае земнаводнае сямейства жаб. **81**. Трываласць, мацунак. **83**. Дыпламатычны прадстаўнік вышэйшага рангу адной краіны ў другой. **85**. Роўная гліністая прастора ў Сярэдняй Азіі. **87**. Цэнтр нафтавай прамысловасці на Сахаліне. **89**. Апошняя стадыя ў развіцці насякомых. **90**. Мелкаводны заліў у нізоўях паўднёвых рэк Еўропы. **92**. Дзяржава ў Азіі. **93**. Славуты эстонскі спявак, народны артыст СССР. **94**. Сталіца краіны ў Цэнтральнай Еўропе. **95**. Судовае пакаранне за правіннасць, злачынства. **96**. Надзейная абарона, цвярдыня, апора. **99**. Грыб сямейства сыраежкавых. **101**. Востраў у Ціхім акіяне. **103**. Ахоўнае гідрамеліярацыйнае збудаванне. **106**. Сельскі населены пункт. **109**. Насценны асвятляльнік. **110**. Моцны спіртны напой. **112**. Нутранoе свіное сала. **113**. Горная сістэма на мяжы Еўропы і Азіі. **114**. Герой грамадзянскай вайны. **116**. Востраў у Адрыятычным моры. **118**. Шыракалістае дрэва. **119**. Жылка ў лісцях раслін, у крылах насякомых. **120**. Хросная маці ў адносінах да бацькоў хросніка. **125**. Край, рубеж. **126**. Высакародны метал шэравата-белага колеру. **127**. Рыбалоўная прылада. **128**. Народны пісьменнік Беларусі. **129**. Лопасць параходнага кола. **130**. Дэкаратыўная расліна з буйнымі кветкамі. **131**. Стан арганізма, калі ў норме дзейнічаюць усе яго органы. **132**. Хвойнае вечназялёнае дрэва. **135**. Драпежны звярок сямейства куніцавых. **137**. Сплаў свінцу, волава, сурмы. **139**. Дранка. **140**. Луста хлеба. **144**. Моцнае жаданне вады. **147**. Шырокі рэмень са скуры або тканіны для пераноскі грузаў. **151**. Папулярны сорт яблыні. **154**. Праўдзівасць, шчырасць. **156**. Амерыканская антылопа. **157**. Сталіца Венесуэлы. **159**. Левы прыток Дняпра. **160**. Наследны тытул вышэйшага дваранства ў Англіі. **161**. Жыццёвыя нягоды, пакуты. **162**. Конь нізкарослай пароды. **163**. Памяшканне для вучэбнай або трэніровачнай стральбы. **164**. Вялікі востраў у Інданезіі. **165**. Гарадскі пасёлак на Гродзеншчыне. **166**. Арганізатар калгаснага ладу на Магілёўшчыне, Герой Савецкага Саюза і Герой Сацыялістычнай Працы. **167**. Вокісел, які пры злучэнні з салетрай і вадой дае кіслату. **168**. Руская актрыса, якая знялася ў фільмах «Соф'я Пяроўская», «Каханая» і інш. **169**. Механічнае прыстасаванне для язды па снезе. **171**. Драбнюткія часткі рэчыва на дне пасудзіны. **172**. Актыўны від паветранага бою. **173**. Збожжаўборачная самаходная машына. **174**. Нацыянальны герой Беларусі, персанаж аповесці Я. Коласа «Дрыгва». **175**. Глыбакаводнае возера ў Сібіры.

**Па вертыкалях:** **2**. Паэма Я. Коласа. **3**. Чукоцкі пісьменнік, аўтар трылогіі «Час раставання снегу». **5**. Кароткі раменны бізун. **6**. Таварыш па рабоце, вучобе. **7**. Сталіца Лівіі. **8**. Марка савецкіх транспартных самалётаў. **9**. Нябачныя прамяні — кароткія электрамагнітныя хвалі. **11**. Назіральнік падзей, здарэння. **12**. Спецыяліст па вывучэнню раслін. **14**. Рабочае адзенне, якое ахоўвае вопратку ад забруджвання. **15**. Беларускі пісьменнік, аўтар раманаў «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы». **16**. Беларуская газета. **17**. Загон, агароджанае месца для пасьбы жывёл. **18**. Вышэйшы ваенны чын. **19**. Сталая жанчына, звычайна замужняя. **22**. Горад-герой на Украіне. **23**. Дзікі асёл паўднёва-заходняй Азіі. **36**. Спецыфічны ход у шахматнай гульні. **37**. Горад у Грэцыі на паўвостраве Пелапанес. **39**. Вада ў стане кіпення. **40**. Тэрыторыя ззаду лініі фронту. **42**. Рака ў Расіі, прыток Волгі. **43**. Жонка Адама, прамаці роду чалавечага. **44**. Рускі народны традыцыйны танец. **45**. Невялікая скульптурная фігурка. **46**. Прыстасаванне, механізм для запуску рухавікоў. **47**. Соль вугальнай кіслаты. **48**. Рака ў Кыргызстане і Казахстане. **49**. Тацнавальная форма класічнага балета. **50**. Храбрасць, адвага. **51**. Унтэр-афіцэр у старым казацкім войску. **53**. Аднадольная расліна са сцяблом. **54**. Вялікая сетка для лоўлі рыбы. **56**. Скульптура А. Глебава. **57**. Свойская водаплаўная птушка. **59**. Драпежнік сямейства катоў. **60**. Дугападобны паварот ракі. **63**. Кармавая расліна. **64**. Мангола-татарскае войска (стар.). **74**. Развіццё, рост. **78**. Кухонная печка з канфоркамі. **80**. Трава другога ўкосу. **81**. Род проса. **82**. Шырокая вядомасць, усеагульнае прызнанне заслуг. **84**. Прыток ракі Дон. **86**. Сям'я пчол. **87**. Перапончатакрылае насякомае. **88**. Горад у Нігерыі. **89**. Рака ў Кітаі, Індыі, Пакістане. **91**. Частка сушы, якая востра выдаецца ў мора. **97**. Адвіслая скура пад шыяй у жывёл. **98**. Калючая ягадная лекавая расліна, кустоўнік. **100**. Буйны драпежны звер. **102**. Асобны этап выбараў. **104**. Абпаленая каляровая гліна. **105**. Поўнае або частковае вызваленне асуджаных ад пакарання. **107**. Прылада для прабівання ўмоўных знакаў кантролю на білетах. **108**. Спецыялізацыя ўрача. **111**. Прыстасаванне для выканання пэўных работ. **115**. Кантора, канцылярыя. **116**. Хараставо, прыгажосць. **117**. Чарада птушак, рыб. **118**. Царкоўны хор. **121**. Вугрападобная рыба. **122**. Сорт белай гліны, з якой робіцца фаянс. **123**. Мінерал, паўкаштоўны камень. **124**. Балет А. Эшпая. **133**. Загарадзь на рацэ для затрымання ходу рыбы. **134**. Сталіца дзяржавы на поўдні Еўропы. **135**. Сенажаць. **136**. Аповесць І. Тургенева. **137**. Членападобны элемент мовы чалавека. **138**. Папірусная лодка Т. Хейердала. **140**. Гільза артылерыйскага снарада. **141**. Пабуджэнне, унутраны штуршок да дзеяння. **142**. Паверхня з дошак, накладзеная на пэўную паверхню. **143**. Знішчэнне, псаванне травы, пасеваў жывёлай. **145**. Старадаўняя беларуская жаночая вопратка. **146**. Грамадская праверка. **147**. Арэх, які сам вылушчыўся. **148**. Каробка, футляр для патронаў. **149**. Група людзей, натоўп. **150**. Рэшта выкуранай папяросы, цыгарэты. **152**. Удзельніца Мінскага падполля ў часы вайны, Герой Савецкага Саюза. **153**. Гарачы, вільготны пояс зямнога шара. **154**. Пералётная птушка сямейства вераб'іных. **155**. Павольны музычны твор. **157**. Шакаладнае дрэва тропікаў. **158**. Харчовая агародная расліна. **170**. Вялікая рака на ўсходзе Сібіры.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**
*г. п. Бялынічы.*

## Праверце адказы

**Крыжаванка (20 чэрвеня). Па гарызанталях**: 5. Арган. 6. Латур. 8. Акрэдытацыя. 13. Беразіно. 15. Карупцыя. 17. Анероід. 18. Эпіграф. 19. Рубрыка. 20. «Тарнада». 23. Дырэктар. 24. Асістэнт. 25. Кібернетыка. 28. Сента. 29. Аспід. **Па вертыкалях:** 1. «Крок». 2. Патэфон. 3. «Начаткі». 4. Журы. 7. Выкараненне. 9. Лейпцыг. 10. Кангрэс. 11. Аперэта. 12. Дыскант. 14. Нафта. 16. Адрас. 21. «Арсенал». 22. Дантыст. 26. Іней. 27. Каік.

**Чайнворд «П» (20 чэрвеня).** 1. Поступ. 2. Паклёп. 3. «Патоп». 4. Перыскоп. 5. Піроп. 6. Прататып. 7. Прыклёп. 8. «Перакоп». 9. Прынцып. 10. Прыступ. 11. Почап. 12. Прычэп. 13. Прыкуп. 14. Прышчэп. 15. Пікап. 16. Пуап. 17. Пратапоп. 18. Піліп. 19. Падкоп. 20. Паліп.

**На сартавальнай станцыі (20 чэрвеня)**. Пазначым вагон, што накіроўваецца ў Арас, літарай А, вагон у Брэст — Б, месца, дзе стаіць цеплавоз, — Т, вагі — В, мыйку — М, паваротны круг — К, пуць каля дыспетчарскай — Д. Чыгуначныя пуці пазначым лацінскімі літарамі X, Y і Z. Нагадаем, што цеплавоз можа не толькі цягнуць, але і штурхаць вагоны. Перамяшчэнні манеўровага цеплавоза мы будзем указваць у дужках (пункт, адкуль ён выходзіць, прамежкавыя пункты руху і канцавы пункт кожнага «хода»).




У выніку ўсе перамяшчэнні ў кароткім запісу павінны выглядаць такім чынам: цеплавоз бярэ Б (TKYB), пераводзіць Б на X (BYKX); бярэ А (XKYBZM); падводзіць А да Б (МДХ); вядзе абодва вагоны да вагаў і пакідае Б на вагах (ХДМZB); адводзіць А на пуць X і пакідае яго там (BZМДХ); чапляе Б, пакінуты на вагах (ХДМZB), вядзе яго на мыйку і там пакідае (BYZM); бярэ А, пакінуты на пуці X (MZBYKX); адводзіць А на вагі і пакідае яго там (XKYB); нарэшце, цеплавоз вяртаецца на ранейшае месца.



## Галаваломка

Угледзьцеся ўважліва ў малюнак галаваломкі і адшукайце адпаведны ключык для яе разгадвання. У выніку вы прачытаеце зашыфраваную тут слушную народную мудрасць.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

# Вадалей поўны аптымізму і ўпэўненасці ў сабе, а Раку рэкамендуецца пачакаць лепшых часоў

На стыку чэрвеня і ліпеня КАЗЯРОГА чакае напружаная, часам цяжкая праца. Не давайце абяцанняў, выканаць якія наўрад ці зможаце. Магчыма з'яўленне нядобразычліўца, які стане актыўна шкодзіць вам. Дзелавыя сустрэчы і перагаворы будуць пераважна прадуктыўнымі. Верагодна, адчуеце моцную сардэчную цягу, якая прымусіць унесці карэктывы ў бліжэйшыя жыццёвыя планы.

ВАДАЛЕЙ поўны аптымізму і ўпэўненасці ў будучым. Фінансавае становішча стабільнае. Нейкае вельмі спрыяльнае развіццё падзей адбудзецца 2 ліпеня. Магчыма, атрымаеце лаўровы вянок. Наперадзе час вясёлых мерапрыемстваў, дзе прыемныя асобы процілеглага полу пачнуць праяўляць да вас павышаную цікавасць. Вашы колеры ўдачы ў ліпені — чырвоны, белы і чорны.

У РЫБ у цэнтры ўвагі — пытанні кар'еры і некаторыя хатнія праблемы. У вас напэўна з'явяцца цікавыя ідэі, якія ў далейшым знойдуць удалую рэалізацыю. Спартсмен і юная фотамадэль стануць на п'едэстал гонару. Асабістыя абставіны прымуць у пачатку тыдня сумны паварот, аднак да нядзелі непрыемнасці ўладзяцца.

Да АВЕНА неба настроена на гэтым тыдні зусім добразычліва. Максімальна скарыстайце гэты перыяд для вырашэння ўсіх праблем — як дзелавых, так і толькі асабістых. Маеце шанц атрымаць пазыку або крэдыт на выгадных умовах. Вашы абсалютна лепшыя дні — 2 і 3 ліпеня. Новае знаёмства створыць трывалую аснову для будучага сямейнага саюзу.

Становішча ЦЯЛЬЦА цалкам стабільнае па ўсіх напрамках. Першыя дні ліпеня ідэальныя для адпачынку. Дарэчы, тым, каму такая магчымасць не выпадзе, празмерныя нагрузкі на рабоце не пагражаюць. Магчыма, атрымаеце нечаканы прыемны падарунак. Любое новае пачынанне возьме ўдалы старт. У сям'і пануюць любоў і гармонія. Рашэнне аб уступленні ў шлюб будзе правільным.

У жыцці БЛІЗНЯТ магчымы нечаканыя змены з мала прадказальнымі вынікамі. Неабходнасць буйных затрат амаль спустошаць вашы фінансавыя рэсурсы. Можаце аказацца на мяжы нервовага зрыву. Трымайцеся далей ад чужых праблем — вас спрабуюць уцягнуць у іх вырашэнне. Не падпісвайце ніякіх дакументаў.

На РАКА пасыплецца мноства заманлівых дзелавых прапаноў, аднак большасць з іх пры бліжэйшым разглядзе акажацца з «двайным дном». Пазбягайце ўступлення ў якія-небудзь фінансавыя абавязацельствы. Магчыма паступленне абнадзейлівых вестак адносна далейшай работы або кар'еры. На дадзеным этапе вам рэкамендавана пераважна тактыка чакання.

ЛЕЎ праявіць разумную рызыку і акажацца ў выйгрышы. Жыццёвыя змены будуць пераважна спрыяльнымі. Адпраўляйцеся без вагання ў дзелавую паездку — яна акажацца ўдалай. Нябёсы благаслаўляюць на ўступленне ў шлюб. Ваш абсалютна лепшы дзень — 3 ліпеня.

Для ДЗЕВЫ тыдзень пачнецца на зусім пазітыўнай ноце. Нейкая заманлівая перспектыва адкрыецца 1 ліпеня. Верагодна, яе рэалізацыя запатрабуе працяглай камандзіроўкі. Перыяд спрыяльны для любых жыццёвых змен. Вырашылі ўступіць у шлюб — уступайце, маеце намер разводзіцца — разводзьцеся.

ШАЛІ створаць надзейную аснову буйнога прарыву, які наступіць пазней у ліпені. Усе прыкрыя перашкоды і непрыемныя моманты застаюцца ў мінулым. Чацвер абяцае стаць у многіх адносінах рашаючым днём. Уважліва вывучыце дзелавую прапанову — магчыма хуткае атрыманне даходу. Грошы пажадана ўкласці ў нерухомасць.

СКАРПІЁН выявіць скрытыя рэзервы, якія валодаюць значным патэнцыялам руху наперад. Вашы рукі павінны быць свабоднымі для новай справы. Спрыяльнае размяшчэнне планет на вашым небасхіле забяспечыць стабільнасць па ўсіх напрамках.

СТРАЛЬЦУ прыйдзецца дзейнічаць пераважна ў адзіночку. Вы падобныя на байца, які «і адзін у полі воін». Партнёрства можа даць трэшчыну, рознагалоссі паміж удзельнікамі практычна непазбежныя. Максімальна скарыстайце свае лепшыя дні — гэта 1 і 2 ліпеня. Жанчыны занятыя пераважна сардэчнымі справамі.

**Сяргей БУЛАНЦАЎ.**
*г. Дэлі.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 85.556. Індэкс 63850.
Зак. № 3868.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12